# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў
і Беларускага таварыства дружбы і культурнай
сувязі з замежнымі краінамі

## ЗМЕСТ



• № 5 (41) • МАЙ • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў,**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**партрэт Аляксандра Пушкіна работы народнага мастака Беларусі Арлена Кашкурэвіча. Гэтая выява будзе змешчана ў юбілейным выданні “Яўгенія Анегіна” на беларускай (у перакладзе А. Куляшова) і рускай мовах, падрыхтаваным Беларускім фондам культуры і Творча-выдавецкай майстэрняй “На росстанях”.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам МАБ, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 1998 г.): у Беларусі — **120 тысяч рублёў**, у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**, Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы — 3015205833015**
**у філіяле “Акадэмічны” КБ “Поиск”, г. Мінск, код 730;**
**валютны — 3015000005287**
**у Мінскім абласным упраўленні АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**

*Таіса Бабкова (Магілёў)*

## СЛЕД БЕЛАРУСІ Ў ПУШКІНСКІМ ЖЫЦЦЯПІСЕ

**Таіса Бабкова** — кандыдат гістарычных навук, дацэнт Магілёўскага тэхналагічнага інстытута. Займаецца пытаннямі жаночага руху, гісторыі культуры Беларусі.

А. С. Пушкін — сонца не толькі рускай, але і ўсёй славянскай паэзіі. Геній Пушкіна спазнаў глыбіню славянскага характару, асаблівасці мыслення славяніна. Але не толькі спазнаў. Пушкін паказаў гэта чытачу праз вобразы сваіх герояў, праз свае пачуцці ў вершах, аповесцях, раманах.

Уражвае, якім чынам далёка не сталага ўзросту чалавек змог так глыбока спасцігнуць асаблівасці славянскай душы, самыя патаемныя пачуцці славян. Падставай таго з'явілася не толькі яго прыродная таленавітасць, але і незвычайная цікавасць да прыроды, мовы, гісторыі, фальклору, міфалогіі, паданняў славянскіх народаў. Славянскае асяроддзе — гэта тое, што выхоўвала пільную ўвагу і павагу да ўсяго славянскага. Пушкін расхінуў сваю душу, сваё сэрца гэтаму асяроддзю. Убачанае, пачутае ператварылася майстэрствам генія ў дзівосныя казкі, аповесці, вершы, раманы.

Паэзія і проза рускага паэта жыватворна паўплывала на развіццё сусветнай культуры, у тым ліку і беларускай. Жыццё і творчасць Аляксандра Сяргеевіча з'явіліся крыніцай для шматлікіх твораў у самых разнастайных жанрах літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва Беларусі. На тэксты Пушкіна напісаны шматлікія творы беларускай музыкі. Напрыклад, кантата "Сказ пра мядзведзіху" А. Багатырова, балада-маналог для баса з аркестрам Я. Цікоцкага, харавыя цыклы А. Туранкова і г. д. Творы Пушкіна ілюстравалі беларускія мастакі. Серыю цудоўных жывапісных палотнаў аб мясцінах, звязаных з жыццём паэта, стварыў мастак з Магілёўшчыны В. Бялыніцкі-Біруля. Усё гэта і шмат іншае — сведчанне дабратворнага ўплыву А. С. Пушкіна на беларускую культуру. І гэта агульнавядома.

Хацелася б звярнуць увагу на іншае. Ёсць падставы сцвярджаць аб адваротным: пэўны ўплыў на Пушкіна аказала беларуская зямля.

Двойчы, у 1820-м і ў 1824-м гг. паэт праязджаў праз Беларусь. У "Летапісе жыцця і творчасці А. С. Пушкіна", складзеным М. Цяўлоўскім, названы беларускія гарады і мястэчкі, праз якія пралягаў шлях апальнага паэта. Гэта Беліца, Чачэрск, Магілёў, Орша, Бабінавічы, Віцебск, Полацк. Уражанні ад доўгіх беларускіх шляхоў, ад сустрэч на паштовых станцыях не маглі не адкласціся ў памяці, у душы паэта, не стаць матэрыялам для будучых твораў. Не магла не адгукнуцца ўражлівая душа паэта на пяшчотныя фарбы беларускай вясны, калі Пушкін першы раз ехаў праз Беларусь. Гэта было у маі 1820 г. Тады паэт па за-

гаду імператара Аляксандра I накіроўваўся ў Екацерынаслаў у распараджэнне генерала Інзава.

У сваіх успамінах сябар Пушкіна Іван Пушчын пісаў: “Белорусский тракт ужасно скучен, не встречая никого на станциях, я обыкновенно заглядывал в книгу для записывания подорожных и там искал проезжих. Вижу раз, что накануне проехал Пушкин в Екатеринослав. Спрашиваю смотрителя: “Какой это Пушкин?” Мне и в мысль не приходило, что это может быть Александр. Смотритель говорит, что это поэт Александр Сергеевич едет, кажется, на службу, на перекладной, в красной русской рубашке, в опояске, в поярковой шляпе” (1).



*Помнік Аляксандру Пушкіну ў Магілёве. Фота Аляксандра Літвіна*

Другі раз праязджаў паэт па беларускай зямлі ў жніўні 1824 г. у якасці звольненага са службы і высланага ў маёнтак маці ў сяло Міхайлаўскае Пскоўскай губерні пад нагляд грамадскіх і духоўных улад.

Аляксандр Сяргеевіч пабачыў Беларусь не толькі вясной, але і ў канцы лета, у жніўні, калі восень яшчэ не закранула кветкі і дрэвы, а лета паказвала Беларусь у самых яскравых фарбах. Ці выпадкова, ці не, але ў самыя цудоўныя часіны паглядзеў на нашу зямельку паэт.

Аб тым, як сустрэў і праводзіў Пушкіна Магілёў, расказваецца ва ўспамінах Аляксандра Пятровіча Распопава, пляменніка дырэктара Царскасельскага ліцэя, у якім вучыўся будучы паэт. “Пушкин, — па ўспамінам А. Распопава, — был в самом веселом и приятном расположении духа… Мы всей гурьбой проводили его на почту […] И, простившись, пожелали ему счастливого пути” (2).

Пасля Магілёва шлях ссыльнага Пушкіна прадоўжыўся па Віцебшчыне. І вось тут мясцовыя паданні вельмі зацікавілі паэта. Склалася нават легенда пра вытокі некаторых твораў Аляксандра Сяргеевіча. Ёсць падставы сцвярджаць, што менавіта на Віцебшчыне ён пачуў гісторыю, якая потым стала сюжэтам для няскончанага рамана “Дуброўскі”.

Геаграфічнае становішча беларускіх зямель абумовіла асаблівую ўвагу да будаўніцтва і паляпшэння дарог, якія адыгрываюць значную эканамічную і ваенную ролю у кожнай дзяржаве. Па меркаваннях даследчыкаў, можна лічыць, што на Беларусі існавала даволі добрая па мерках XIX ст. сістэма дарог (3). Вехамі адзначаліся накірунак і шырыня паштовых трактаў. Будаваліся шматлікія паштовыя станцыі, якія ўключалі станцыйны дом, пуню, стайню, флігелі для фурманоў і наглядчыкаў. Пушкін мог бачыць на сваім шляху мноства такіх стан-

цый: у Магілёве, Віцебску, Бабінавічах, Беліцы і г. д. Не выключана, што пад уражаннямі ад гэтых ды іншых станцый і аповедаў пра іх гаспадароў А. С. Пушкін стварыў у 1830 г. аповесць “Станцыйны наглядчык”.

І ці не верставыя слупы беларускіх дарог навеялі словы ў вершы “Зімняя дарога”: “Только версты полосаты попадаются одне”?

Не мог не чуць, не чытаць Аляксандр Сяргеевіч і аб знаходжанні ў Магілёве выдатнага царкоўнага і грамадскага дзеяча XVIII ст. Георгія Каніскага. Паэт добра ведаў імя гэтага чалавека, яго выказванні аб карысці навукі, аб асвеце народа і, вядома ж, паэтычныя творы архіепіскапа. Жыццю і дзейнасці Г. Каніскага быў прысвечаны артыкул Аляксандра Сяргеевіча “Собрание сочинений Георгия Конисского, архиепископа белорусского”. Артыкул быў апублікаваны ў часопісе “Современник” у 1836 г. У ім аўтар падкрэсліваў роднасць беларускага і рускага народаў, значнасць дзейнасці Г. Каніскага, скіраванай на ўмацаванне праваслаўя. Як адзначаў паэт, Каніскі адзін “из самых достопамятных мужей минувшего столетия” і выданне яго твораў з’яўляецца “важнейшей услугой” грамадству (4).

---

(1) Лиокумович Т. Б. Потомки А. С. Пушкина в Беларуси. Минск, 1991. С. 96.
(2) Симанович Д. Подорожная Александра Пушкина. Минск, 1997. С. 13.
(3) Сардаров А. С. История и архитектура дорог Беларуси. Минск, 1978.
(4) Пушкин А. С. Собр. соч.: [В 16 т.]. М.; Л., 1949. Т. 12. С. 12–14.

***Дзмітрый Крывашэй (Гродна)***

## ПРЫСУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў КРАІНАХ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І ЗАХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ Ў 1991–1996 гадах

*(Заканчэнне. Пачатак у № 4 за 1999 г.)*

У 1991 г. былі ўсталяваны сувязі паміж Саюзам пісьменнікаў Беларусі (з 1995 г. — Саюз беларускіх пісьменнікаў) і суполкай нямецкіх пісьменнікаў “Літаратурны калоквіум Берліна”. У 1991 г. па праграме Калоквіума ў Германію былі запрошаны беларускія пісьменнікі В. Адамчык і А. Разанаў. Вынікам іх знаходжання стала публікацыя ў часопісе “Ost–West Forum” апавядання В. Адамчыка “Вазьмі свой крыж” і вершаў А. Разанава ў перакладзе Э. Эрб. Яшчэ больш шырокай была прысутнасць беларускіх пісьменнікаў на Тыдні беларускай літаратуры ў Берліне, арганізаваным тым жа “Літаратурным калоквіумам” з 11 да 17 мая 1992 г. У Германію былі запрошаны У. Арлоў, В. Быкаў, В. Іпатава, А. Кудравец, А. Мальдзіс, А. Разанаў. Сустрэчы на нямецкай зямлі паклалі пачатак публікацыі шэрагу перакладаў на нямецкую мову твораў нашых пісьменнікаў.

Доказам цікавасці да беларускага прыгожага пісьменства ў Германіі служаць два выданні 1995 г.: кніга Алеся Разанава “Знакі вертыкальнага часу” і альманах “OSTARA 4” пад назвай “Беларусь. Мова, якая выстаяла”, якія ўвабралі ў сябе шматлікія вершаваныя і празаічныя творы вядомых беларускіх паэтаў і празаі-

каў. Творы А. Глобуса і В. Іпатавай у 1996 г. прапанавала сваім чытачам газета "Frankfurter Allgemeine Zeitung". У тым жа годзе ў Германіі выйшла кніга Сяргея Законнікава "Вячэра пад райскім дрэвам" .

У ходзе Тыдня беларускай літаратуры ў Балгарыі (красавік 1996) адбылася прэзентацыя толькі што выдадзенай кнігі Алеся Разанава "Страшны суд". Пераклады на балгарскую мову твораў С. Законнікава, В. Зуёнка, У. Някляева, С. Панізніка і А. Разанава, зробленыя Здраўкам Кісьевым, былі надрукаваны ў штотыднёвіку "Български писател", які выйшаў у час Тыдня беларускай літаратуры.

Пераклады твораў Алеся Разанава ў 1996 г. былі надрукаваны ў Македоніі і Славеніі.

У 1994 г. у бухарэсцкім выдавецтве "Мінерва" выйшла анталогія паэзіі некалькіх еўрапейскіх краін, якія ўваходзілі ў склад былога Савецкага Саюза. Беларуская паэзія прадстаўлена ў анталогіі імёнамі Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Барадуліна і Алеся Разанава .

Цікавасць да беларускай літаратуры праявілі і ў Швейцарыі. Там у 1995 г. выйшаў першы за ўсю гісторыю нямецкамоўны зборнік беларускай прозы "Беларуская проза: Цётка — Змітрок Бядуля — Якуб Колас" у перакладзе з беларускай мовы Ісака Марголіна .

Творы беларускай класічнай і сучаснай літаратуры неаднаразова друкаваліся ў Польшчы. У 1993 г. у Беластоку выйшла аповесць А. Карпюка "Рай у Вяршаліне" ў перакладзе С. Яновіча, а ў 1994 г. пабачыў свет знакаміты твор М. Гусоўскага "Песня пра зубра". Адметным з'яўляецца тое, што пераклад зроблены не з арыгінала, а з беларускай мовы. У 1996 г. у варшаўскім выдавецтве "Pod wiatr" выйшла кніга Сяргея Законнікава "Чорны конь апакаліпсіса", якая была адзначана міжнароднай прэміяй імя Вітольда Гулевіча, польскага паэта і патрыёта, расстралянага фашыстамі ў 1941 г. Часопісы "Dyskusja", "Lithuania", "Literatura na Świecie", "Kamena", "Kresy literackie", "Tekst" знаёмілі польскага чытача з творамі Я. Коласа, Я. Купалы, Я. Чыквіна, А. Разанава і іншых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Большасць публікацый прыпадае на 1995 г.

Па-ранейшаму папулярным у Еўропе заставаўся Васіль Быкаў. У 1996 г. кніга яго аповесцей выйшла ў Балгарыі. Пераклад апавядання "Цудоўны жоўты пясок" на нямецкую мову змешчаны ў нямецкім часопісе "Sinn und Form".

**7. Абмен і гандаль кнігамі**

Галоўным агентам па прапагандзе беларускай навукі і культуры праз распаўсюджванне беларускіх выданняў у першай палове 90-х гг. была Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Яна дзейнічала праз сістэму міжнароднага кніжнага абмену. За перыяд 1991–1996 гг. ён заўважна ажывіўся, што звязана са зменамі палітычных і эканамічных рэалій (у першую чаргу ўзнікненнем суверэннай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь), якія стымулявалі цікавасць да нашай краіны, нашых традыцый і гісторыі. Так, калі ў 1985 г. у бібліятэкі было 170 партнёраў,

то ў 1992 — 245, а на 1студзеня 1997 г. – 297 партнёраў у 43 краінах свету. Сярод партнёраў — нацыянальныя і навуковыя бібліятэкі, бібліятэкі універсітэтаў і ўстаноў культуры, навуковыя таварыствы і даследчыя арганізацыі, рэдакцыі часопісаў і г. д. Найбольшая колькасць партнёраў (на 1 студзеня 1997 г.) была ў Германіі — 54, ЗША — 49, Польшчы — 34, Францыі — 23, Вялікабрытаніі — 17.

Не засталіся ў баку ад супрацоўніцтва і рэгіянальныя бібліятэкі Беларусі. Прынамсі, Брэсцкая абласная бібліятэка наладзіла сувязі з Публічнай бібліятэкай Бяла-Падляскай (Польшча). У ходзе ўзаемакарысных кантактаў і абмену друкаванай прадукцыяй ваяводская Публічная бібліятэка паступова стала вядучай у Польшчы па збору гістарычнай і сучаснай інфармацыі аб беларускіх землях.



*Дні беларускай літаратуры ў Берліне (1992). Каля рэйхстага: у цэнтры (злева направа) — Вольга Іпатава, Алесь Разанаў, Норберт Рандаў (ззаду), Анатоль Кудравец, Ніна Мацяш (сядзіць), Уладзімір Арлоў (ззаду)*

Абмен перыядычнымі выданнямі з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы наладжвала Рэспубліканскае аптова-рознічнае прадпрыемства “Белсаюздрук”. Аднак гэтая работа не набыла сістэмнага характару. Сярод галоўных прычын — адсутнасць пэўнага попыту ў сувязі з незадаволенасцю замежнага чытача зместам нашых выданняў, вялікія выдаткі на перасылку. Да таго ж беларускія суполкі і дзелавыя колы за мяжой атрымлівалі беларускія выданні па іншых каналах — праз дзяржаўнае прадпрыемства “Мінская пошта”, а таксама грамадскую арганізацыю Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”.

Прапагандзе і рэкламе, пошуку шляхоў рэалізацыі сучаснай беларускай кніжнай прадукцыі спрыяў удзел нашай краіны ў кніжных кірмашах у Варшаве (з 1994 г.) і Франкфурце-на-Майне (з 1995 г.). Вынікі ўдзелу Беларусі ў кірмашах сведчаць аб тым, што кнігавыданне краіны у вызначаны перыяд знаходзілася на добрым узроўні па зместу і афармленню друкаванай прадукцыі. Разам з тым, яшчэ мала зроблена, каб беларуская кніга выйшла на передавыя пазіцыі ў выбары і раскрыцці цікавых тэм, канструяванні, мастацкім афармленні і паліграфічным выкананні выданняў (17). Пашырэнню экспарту беларускай літаратуры за мяжу не спрыяла адсутнасць наладжанай сістэмы вывучэння чытацкага попыту і рэкламы айчыннай друкаванай прадукцыі ў краінах-партнёрах.

**8. Дапамога беларускай дыяспары, садзейнічанне захаванню гісторыка-культурнай спадчыны**

Работа ў гэтым напрамку вызначалася значнасцю намераў і нязначнасцю зробленага.

У 1993 г. Саветам Міністраў была распрацавана дзяржаўная праграма “Беларусы ў свеце”. Яна вызначала асноўныя накірункі работы з беларусамі замежжа, тэрміны выканання і адказныя ўстановы. У структуры Міністэрства культуры быў створаны Каардынацыйны савет па рабоце з беларускім замежжам. Штогод распрацоўваўся асобны план работы ў вызначаным накірунку.

На шляху выканання Праграмы міністэрства прымала ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні Фестывалю беларускай песні ў Беластоку (Польшча). У яе рамках адбывалася папаўненне беларускай літаратурай бібліятэк розных устаноў за межамі краіны. Літаратура паступала на Беласточчыну, у Гайнаўскі музей, на кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (18).

Трывалыя творчыя сувязі працягвалі развівацца паміж Міністэрствам культуры Беларусі і Беларускім грамадска-культурным таварыствам ў Польшчы (БГКТ).

У 1995 г. была ўзгоднена і прынята да выканання навуковая канцэпцыя Музея і асяродка беларускай культуры, які з 1986 г. будаваўся ў Гайнаўцы Беластоцкага ваяводства. Работа вялася за кошт сродкаў, якія вылучаліся з рэспубліканскага бюджэта на дзейнасць музеяў. Разам з навуковай была распрацавана мастацкая канцэпцыя экспазіцыі, над якой працаваў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомы мастак Э. Агуновіч.

Вывучэнню праблем, што назбіраліся за працяглы гістарычны перыяд, распрацоўцы навукова абгрунтаваных рэкамендацый урадам абедзьвюх краін па вырашэнню пытанняў адносін да сумеснай гісторыка-культурнай спадчыны і да гісторыка-культурных каштоўнасцей аднаго з бакоў, што знаходзяцца на тэрыторыі другога боку, а таксама выкананню іншых даручэнняў абодвух урадаў была прысвечана работа Беларуска-польскай кансультацыйнай камісіі па справах гісторыка-культурнай спадчыны. За перыяд з 1993 па 1995 г. адбыліся чатыры пасяджэнні паўнамоцных прадстаўнікоў урадаў і экспертаў сумеснай камісіі. У час пасяджэння 25 сакавіка 1995 г. у Варшаве было падпісана Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Рэспублікі Польшча аб супрацоўніцтве ў галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны. У працы камісіі галоўная ўвага надавалася пытанням канкрэтнага ўзаемадзеяння ў рэгенерацыі комплексу гісторыка-культурных каштоўнасцей Нясвіжа. Апрача таго, закраналіся канкрэтныя пытанні інвентарызацыі альбарутэнікаў, палонікаў, забеспячэння іх даступнасці для навуковых даследаванняў; пашырэння магчымасцей і ўмоў работы спецыялістаў аднаго боку ў архівах другога, абмену і арганізацыі музейных выставак (у тым ліку і сумесных), публікацый, выдання каталогаў. Была выказана, абмеркавана і рэкамендавана для рэалізацыі прапанова аб’яднаць намаганні Беларусі і Польшчы ў кансервацыі, фрагментарным аднаўленні і адаптацыі замкаў у Навагрудку і Крэве.

Значнай падзеяй у беларуска-чэшскім супрацоўніцтве з'явілася адкрыццё ў апошнія дні кастрычніка 1996 г. у Празе мемарыяльнай дошкі на мурах Славянскай бібліятэкі, а таксама помніка Францыску Скарыне на Пражскім Градзе.

**9. Удзел грамадскіх арганізацый у распаўсюджанні беларускай культуры ў краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы**

Шматпланавую, разнастайную работу праводзіла Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (БелТД). Галоўная яго работа ў пачатку 90-х гг. у сувязі з распадам СССР была накіравана на наладжванне ўзаемаадносін грамадскасці другіх краін з нашай дзяржавай. У выніку праведзенай работы ў канцы 1996 г. больш за 120 таварыстваў і іншых грамадскіх аб'яднанняў за мяжой падтрымлівалі дзелавыя адносіны з БелТД (19).

За перыяд з 1992 да 1997 г. амаль у тры разы павялічылася колькасць нацыянальных таварыстваў дружбы. У структуры БелТД дзейнічалі 25 нацыянальных сябрын дружбы. З іх 16 — з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Таварыства аб'ядноўвала да 300 пярвічных арганізацый, раённых, гарадскіх і абласных аддзяленняў.

Праграма культурных мерапрыемстваў таварыства вызначалася перш за ўсё масштабнымі мерапрыемствамі. БелТД арганізавала і правяло Дні Беларусі ў Балгарыі (1991), Германіі (1993), Вялікабрытаніі (1994), Францыі (1995). Непасрэдны ўдзел прымалі актывісты Таварыства ў падрыхтоўцы і правядзенні Дзён рэспублікі ў Швейцарыі (1992), Дзён беларускай літаратуры ў Балгарыі (1996).

Шырокую геаграфію мелі паездкі за мяжу майстроў беларускага мастацтва праз БелТД. За пяць гадоў (1992–1997) 49 мастацкіх калектываў рэспублікі далі ў замежжы звыш 500 канцэртаў. З іх творчасцю азнаёміліся амаль 150 тысяч чалавек. У іншыя краіны за гэты ж перыяд з выстаўкамі выязджалі 72 мастакі. Толькі за 1993 г. БелТД арганізавала выезд 480 чалавек у складзе мастацкіх калектываў і для ўдзелу ў выстаўках.

У 1996 г. юрыдычны статус атрымала Беларуская асацыяцыя пароднёных гарадоў, якая да гэтага ўваходзіла ў структуру Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. На 1 студзеня 1992 г. 17 беларускіх гарадоў мелі 26 партнёраў у 12 краінах свету. Па дадзеных 1997 г. ужо 26 беларускіх гарадоў супрацоўнічалі з 50 гарадамі за мяжой. Найбольш партнёраў было ў Германіі — 16. Гэты від супрацоўніцтва дазволіў на мясцовым узроўні не толькі забяспечыць азнаямленне з беларускай культурай, але і наладзіць трывалыя кантакты творчых калектываў і асобных дзеячаў мастацтва.

У 90-х гг. на Беларусі быў створаны цэлы шэраг разнастайных міжнародных і рэспубліканскіх фондаў, мэтамі якіх было разнастайнае садзейнічанне развіццю культуры і яе прапагандзе за мяжою.

У пачатку кастрычніка 1991 г. Міністэрства юстыцыі Беларусі зарэгістравала Беларускі фонд славянскага пісьменства і славянскай культуры, дзейнасць якога ў 1991–1996 гг. была скіравана на падтрымку агульнаславянскіх і рэгіянальных праграм па вывучэнню мовы, фальклору і этнаграфіі. Фонд супрацоўнічаў з ЮНЕСКО, міжнароднымі няўрадавымі арганізацыямі і замежнымі фон-

дамі, браў удзел у мерапрыемствах “Славянскага праекта” ЮНЕСКО, у тым ліку ў стварэнні “Нарысаў культуры славян” (20).

У снежні 1994 г. быў створаны Фонд развіцця традыцыйнай этнічнай культуры (ФРТЭК), які падтрымліваў кантакты з навукова-культурнымі цэнтрамі і дзеячамі культуры Германіі, Францыі, Швецыі, Ісландыі, Грэцыі, Бельгіі, Польшчы і іншых краін свету. Пад эгідай Фонду дзейнічалі вайскова-гістарычны рыцарскі клуб “Калюмны”, які аб’ядноўвае маладых энтузіястаў вывучэння і аднаўлення сярэдневяковых строяў і ўзбраення беларускага войска, і Мінская дударская гільдыя, аснову якой складаюць сапраўдныя знаўцы дуды, што самі ўзнавілі тэхналогію яе вырабу, архаічнае гучанне і чыста беларускую традыцыю ігры. Узровень выканаўчага майстэртсва ўдзельнікаў гільдыі ацанілі музыканты і майстры-дудары з краін Заходняй Еўропы і Скандынавіі, што прыязджалі ў Мінск у 1992 і 1993 гг. на I і II Балтыйскія дударскія фэсты. У ліпені і жніўні 1996 г. клуб “Калюмны” браў удзел у рыцарскіх турнірах у Польшчы. У чэрвені гэтага ж года прадстаўнікі Мінскай дударскай гільдыі удзельнічалі ў штогадовым Галандскім нацыянальным дударскім свяце (па запрашэнню Нацыянальнай асацыяцыі дудароў Нідэрландаў) (21).

**Вывады.**

Можна з упэўненасцю канстатаваць той факт, што незалежная Беларусь здолела заявіць пра сябе як краіна з адметнай, багатай і разнастайнай культурай. З шэрагам краін Цэнтральнай і Заходняй Еўропы былі падпісаны дакументы нарматыўна-прававога характару, якія закраналі пытанні культурнага супрацоўніцтва. У праграмы міжнародных міждзяржаўных арганізацый былі ўключаны мерапрыемствы, якія спрыялі папулярызацыі беларускай культуры ў Еўропе, а таксама прадугледжвалі фінансаванне праектаў, падрыхтаваных беларускім бокам.

На дзяржаўным узроўні была наладжана гастрольная дзейнасць тэатральных калектываў і выканаўцаў. Дзеячы нацыянальнай культуры і мастацтва атрымалі вядомасць і папулярнасць за межамі краіны.

Значна пашырыць геаграфію сяброўства, напоўніць яе разнастайнасцю, распрацаваць новыя формы супрацоўніцтва змаглі грамадскія аб’яднанні і арганізацыі, творчыя саюзы.

Разам з тым зроблены аналіз дазваляе вызначыць і шэраг недахопаў.

У 1991–1996 гг. дзяржаўныя органы ўлады не здолелі рэалізаваць большую частку намераў, аб якіх гаварылася ў двухбаковых дамовах урадаў і адпаведных устаноў. Не спрыяла развіццю трывалых культурных стасункаў Беларусі з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы адсутнасць распрацаванай дзяржаўнай канцэпцыі знешнепалітычнай дзейнасці, якая ўключала б перспектыўны прагноз развіцця разнастайных сувязей.

Складанае фінансавае становішча, арыентацыя дзяржбюджэту на іншыя галіны народнай гаспадаркі, неразуменне важнасці маркетынгу, менеджменту і рэкламы знешнеэканамічнай дзейнасці ў галіне культуры не спрыялі больш шырокаму распаўсюджванню ведаў аб нашай нацыянальнай культуры, істотнаму ўключэнню насельніцтва краін Цэнтральнай і Заходняй Еўропы ў арбіту нашых інтарэсаў.

Указаныя недахопы становяцца яшчэ больш яскравымі, калі параўнаць прысутнасць беларускай культуры ў еўрапейскіх краінах з сістэмай наладжанай шэрагам краін Еўропы сапраўднай экспансіі іх культуры ў нашу прастору. Паспяховая дзейнасць Нямецкага культурна-адукацыйнага цэнтра імя Гётэ, Брытанскага Савета, Франка-беларускай інфармацыйнай залы, Польскага інстытута не дазваляе гаварыць аб парытэтнасці культурнага супрацоўніцтва, бо наша краіна не здолела адкрыць падобныя ўстановы за мяжой.

Амаль поўная адсутнасць ў Беларусі мецэнацтва не садзейнічала здзяйсненню цікавых міжнародных праектаў як дзяржаўнымі, так і грамадскімі культурнымі ўстановамі, арганізацыямі, калектывамі.

---

(17) Иванов Ю. Франкфуртская ярмарка: Итоги и уроки // Книга и мы. 1997. 7–13 нояб.

(18) Бутэвіч А. “Калі прышчапіць высокую культуру людзям, то яны не захварэюць на духоўную заразу…” // Бел. думка. 1994. № 7. С. 1–3.

(19) Рабочы фонд Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

(20) Дзеля славянскага супольніцтва // Літ. і мастацтва. 1992. 13 сак.

(21) Фонд развіцця традыцыйнай этнічнай культуры // Культурнае жыццё Беларусі: Хроніка падзей. 1996. № 5. С. 18–21.

## ДА СЯБРОЎ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

Прыгадваем, што, у адпаведнасці з вынікамі апытання, прынята рашэнне правесці Трэці Міжнародны кангрэс беларусістаў у Мінску 21–23 верасня 1999 г. (дзень заезду — 20 верасня, дзень ад’езду — 24 верасня). Улічваючы пажаданні сяброў камітэта МАБ, выказаныя ў анкетах, праблематыка кангрэса сфармулявана наступным чынам: “Беларусь і славянскі свет, Беларусь і неславянскія краіны: узаемаўзбагачэнне культур”. Апрача пленарных было вырашана правесці тэматычныя пасяджэнні (па накірунках гуманітарных даследаванняў), пасяджэнні “круглых сталоў”, прысвечаныя ўзаемадзеянню з паасобнымі славянскімі краінамі. Прадугледжаны напрамкі: “Хрысціянства ў Беларусі ў славянскім і агульнаеўрапейскім кантэксце: здабыткі тысячагоддзя”, “Стварэнне агульнай інфармацыйнай прасторы”, “Беларуская дыяспара: тэарэтычная і практычная каштоўнасць здабыткаў XX стагоддзя”, “Францыск Скарына — усходнеславянскі першадрукар”. Канчатковы тэрмін падачы заявак — 15 чэрвеня. Яны прымаюцца толькі ад сяброў МАБ і толькі праз нацыянальныя і рэгіянальныя асацыяцыі і пярвічныя суполкі ў адпаведнасці з квотай (у сярэднім тры ўдзельнікі ад 10 сяброў). Індывідуальна прысылаюцца заяўкі ад беларусістаў з тых краін, гарадоў і ўстаноў, дзе асацыяцый і суполак няма.

Адначасова просім вылучыць дэлегатаў на кангрэс (для справаздачна-перавыбарнага пасяджэння). Адзін дэлегат — ад дзесяці сяброў. Індывідуальныя сябры ў паасобных краінах таксама ўключаюцца ў лік дэлегатаў.

Цяпер намаганні бюро камітэта МАБ скіраваны на перарэгістрацыю нашай арганізацыі (мы ўдзячны тым арганізацыям і суполкам, якія са зразуменнем аднесліся да нашых складанасцей і прыслалі пацвярджэнні аб згодзе на перарэгістрацыю і спісы сваіх сяброў) і на пошукі крыніц фінансавання кангрэса.

*Бюро камітэта МАБ*

*Лідзія Савік (Мінск)*

## БЕЛАРУСКІ ПЕРАКЛАД "УЛІСА" ДЖЭЙМСА ДЖОЙСА

**Лідзія Савік** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг пра "вясковую" прозу, Б. Сачанку, Б. Кіта (два выданні).

Паколькі я не толькі даследчык літаратуры, але і чытаю лекцыі студэнтам, то добра ведаю, якім прызнаннем у чытачоў карыстаюцца творы сусветнай класікі. Нядаўна ў газетах былі апублікаваны адразу два рэйтынгі, якія вызначылі сто лепшых англамоўных раманаў XX ст.

У фарміраванні першага рэйтынгу ўдзельнічала група знакамітых філосафаў, гісторыкаў і літаратараў. Другое апытанне правялі студэнты Рэдкліфскага каледжа, які ўваходзіць у склад аднаго з самых элітных прыватных універсітэтаў ЗША. У спісках прысутнічае 47 агульных назваў, прычым чатыры з іх уваходзяць у першую дзесятку кожнага. Гэта раманы Джэймса Джойса "Уліс" і "Партрэт мастака ў юнацтве", Фрэнсіса Скота Фіцджэральда "Вялікі Гэтсбі", Джона Стэйнбека "Гронкі гневу", Уільяма Фолкнера "Шум і ярасць".

Як бачым, ірландскі пісьменнік Джэймс Джойс і яго раманы займаюць першыя радкі ў абодвух апытаннях. Таму вельмі добра, што сёння мы, беларусы, можам чытаць твор сусветнавядомага пісьменніка на роднай беларускай мове. "Уліс" быў перакладзены Янам Максімюком, які жыве ў Беластоку, і выйшаў пад рэдакцыяй перакладчыка з англійскай мовы Сяргея Шупы (ён, дарэчы, пераклаў з англійскай на беларускую кнігу Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША"). Вялікая заслуга перакладчыка заключаецца ў тым, што раман гучыць на беларускай мове так жа натуральна і нязмушана, як і на англійскай, што яшчэ раз пацвярджае высокі статус нашай мовы, яе здольнасць перадаваць самыя розныя адценні перажыванняў, пачуццяў герояў, агульныя, агульнахрысціянскія праблемы жыцця чалавека наогул.

Трэба падкрэсліць, што "Уліс" Джойса — не для лёгкага чытання. Ён напісаны ў рэчышчы авангардызму — літаратурнага руху ў мастацкай культуры XX ст., які парваў з ранейшымі нормамі і традыцыямі, ператварыў навізну выяўленчых сродкаў у самамэту. Авангардызм цесна звязаны з мадэрнізмам, ён адлюстроўвае анархічна-суб'ектывісцкі, індывідуалістычны погляд на свет. Прынцыпы авангардызму ўспрынялі такія літаратурна-мастацкія плыні, як экспрэсіянізм, сюррэалізм, а таксама літаратура "патоку свядомасці", "новы раман", "драма абсурду".

Беларуская літаратура вельмі цесна звязана з традыцыйнымі мастацкімі прыёмамі адлюстравання рэчаіснасці. І таму ўвядзенне "Уліса" ў беларускамоўны

кантэкст мае вялікае значэнне для сучаснай нашай літаратуры. Дарэчы тут будзе сказаць, што Джэймс Джойс — сучаснік класікаў беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, якія стаялі ля вытокаў новай беларускай паэтычнай і празаічнай традыцыі. Прыгадаем, што Дж. Джойс нарадзіўся ў адзін год з Я. Купалам, Я. Коласам, У. Галубком (1882), а памёр у 1941-м (наш Я. Купала загінуў у 1942-м). Але куды больш істотна, што гэтыя нашы пісьменнікі, і ірландскія — Йітс (1865–1939), Сінг (1871–1909), Джойс (1882–1941) з'яўляліся ідэолагамі беларускага і ірландскага нацыянальных Адраджэнняў пачатку XX ст., мэтай якіх было аднаўленне нацыянальнай культуры, што знаходзілася пад пагрозай знікнення ў выніку асіміляцыі, захаванне мовы, помнікаў культуры, гісторыі, збіранне скарбаў фальклору. Пачатак стагоддзя (ці рубеж яго) якраз быў часам нараджэння ірландскай і беларускай літаратур новага напрамку, якія дзякуючы творам іх буйнейшых прадстаўнікоў — Йітса, Сінга, Джойса, Багдановіча, Купалы, Коласа — набылі шырокую вядомасць. Калі найбольш паслядоўным выразнікам кельтскага нацыянальнага руху быў Дуглас Хайд (1860–1949), гісторык, паэт, фалькларыст, які стаў першым Прэзідэнтам Ірландскай Рэспублікі, то ў нас такімі ж выразнікамі нацыянальнай ідэі былі пісьменнікі Вацлаў Ластоўскі (1883–1938) і Цішка Гартны (1887–1937), першыя "прэм'ер-міністры" ўрадаў БНР і БССР. Можна прывесці шмат падобных блізкіх прыкладаў жыцця нашых народаў — у літаратуры, гісторыі, мастацтве. Але гэта тэма больш прыдатная для разгляду гісторыкам. Мне ж хацелася б тут засведчыць факт збліжэння нашых літаратур дзякуючы перакладу "Уліса" на беларускую мову і перакладам лепшых твораў беларускіх аўтараў на англійскую мову. Было б выдатна, каб мы змаглі правесці канферэнцыю "Ірландыя – Беларусь" якраз па літаратурна-гістарычнай тэматыцы, зрабіць тыпалагічнае параўнанне лёсаў, твораў і творцаў.

Калі гаварыць пра Джэймса Джойса, то яго літаратурная дзейнасць пачалася якраз сярод пісьменнікаў ірландскага літаратурнага адраджэння. І пачынаў ён, як і многія беларускія пісьменнікі, з вершаў, з традыцыйных ірландскіх напеваў, з выкарыстання славутых ірландскіх сагаў, паколькі быў цесна звязаны з карэннай Ірландыяй. Але прызваннем яго стала проза: у 1914 г. выходзіць зборнік яго ранніх апавяданняў "Дублінцы", а ў 1916 г. — раман "Партрэт мастака ў юнацтве".

Над раманам "Уліс" Дж. Джойс працаваў сем гадоў (1914–1921). Асноўным творчым прынцыпам аўтара стала раскрыццё тагачаснага жыцця праз "паток свядомасці" герояў. Раман "Уліс", які выйшаў з друку ў 1922 г., — гэта хроніка аднаго дня жыцця двух герояў, суаднесеная з "Адысеяй" Гамера. У рамане адчуваецца фрэйдысцкі падтэкст, а героі — своеасаблівыя архетыпы, што складаюць змест сімволікі сноў, міфаў, казак і фантазіі аўтара. "Уліс" блізкі да такіх вядомых твораў, як "Місіс Дэлоуэй", "Да маяка", "Хвалі" англійскай пісьменніцы Вірджыніі Вулф (1882–1941), "Упошуках страчанага часу" француза Марселя Пруста (1871–1922), "Станаўленне амерыканцаў" Гертруды Стайн (1874–1946).

У завяршэнне мне хацелася б прывесці хоць адну цытату з беларускамоўнага "Уліса": "Куды падзеліся нашы дваццаць мільёнаў ірландцаў, якіх мы сёння павінны мець замест чатырох, нашы страчаныя калены? А нашы ганчары, нашы ткачы, найлепшыя ў цэлым сьвеце? А наша сукно, якое яшчэ ў Рыме прадавалі ў часы Ювэнала, і наш кужаль, і наша адамашка з кроснаў Антрыму, і нашы карункі зь Лімэрыку, нашы гербаваныя скуры, і белае алавянае шкло з-пад Балібоку, і наш гугеноцкі паплін, і нашы шаўковыя тканіны, і фоксфардскі туід, і крэмавы гіпюр з кармэліцкага манастыра ў Ньюю-Рос, нічога падобнага ў цэлым сьвеце няма". Гэты балючы роздум аднаго з герояў рамана кранае беларусаў такімі зразумелымі ім настальгічнымі ноткамі пра славу і веліч Ірландыі.

Пераклад, як бачна зроблены на мове Б. Тарашкевіча, Я. Лёсіка, Я. Купалы, М. Багдановіча, Я. Коласа, якая жыла і будзе жыць не толькі ў творах, але і ў перакладах сусветнавядомых шэдэўраў, да якіх несумненна адносіцца "Уліс" Джэймса Джойса.

## ПАПАЎНЕННЕ

У камітэт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў паступілі анкеты-заявы наступных асоб:

***Балабуха Кім,*** дацэнт Харкаўскага педуніверсітэта імя Г. Скаварады (Украіна), філолаг; ***Белямук Міхаіл,*** гісторык (ЗША); ***Байко Віктар,*** першы намеснік старшыні Харкаўскага аддзялення Украінскага фонду культуры, перакладчык; ***Жамойцін Янка,*** кіраўнік бюро Гаспадарча-рамеснага самаўрада ў Варшаве, гісторык, пісьменнік; ***Ількевіч Мікалай,*** начальнік Цэнтра грамадскіх сувязей Упраўлення ФСБ РФ па Смаленскай вобл., гісторык; ***Кавалёва Аляксандра,*** заг. кафедры моваразнаўчых дысцыплін Харкаўскага інстытута кіравання, філолаг, перакладчыца; ***Караткевіч-Цыганок Таццяна,*** старшыня праўлення Беларуска-эстонскага культурна-асветніцкага аб'яднання "Спадчына" (Нарва); ***Конрад Мат'яс,*** выкладчык нямецкай мовы (Гамбург, Германія); ***Мілаш Леакадзія,*** настаўніца беларускай школы імя Ф. Скарыны (Вільнюс), публіцыст; ***Пачаі Імрэ,*** выкладчык педінстытута імя Бешэнеі (Нірэдзьхазра, Венгрыя), моваразнаўца; ***Пяткевіч Генрык,*** выкладчык Вільнюскага педуніверсітэта, літаратуразнаўца; ***Свашэнка Ала,*** прафесар Харкаўскага універсітэта, моваразнаўца; ***Юрэвіч Лявон,*** магістр філалогіі, літаратуразнаўца (Нью-Йорк); ***Ярэшчанка Артур,*** прафесар Харкаўскага інстытута кіравання, моваразнаўца; ***Ясюлевіч Ларыса,*** магістр філалогіі, асістэнт Вільнюскага універсітэта, моваразнаўца.

Паколькі сабраць чарговае пасяджэнне камітэта МАБ да кангрэса немагчыма, выносім дадзеныя кандыдатуры на абмеркаванне такім чынам. Адсутнасць лістоў сяброў камітэта супраць дадзеных кандыдатур будзе лічыцца іх адабрэннем.

Адначасова паведамляем, што на пасяджэнні камітэта Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў пад старшынствам Уладзіміра Конана станоўча было вырашана пытанне аб сяброўстве МАБ Дзіны Бабрыцкай (Мінск), Міколы Багадзяжа (Мінск), Наталлі Давыдзенка (Мінск), Сяргея Даніленкі (Мінск), Іосіфа Зямчонка (Варапаева), Яўгена Іванова (Магілёў), Кліменція Кожана (Германавічы), Ірыны Масляніцынай (Мінск), Алеся Ненадаўца (Мінск), Ады Райчонак (Германавічы), Кастуся Шыдлоўскага (Браслаў).

*Мікалай Нікандраў (Масква)*

## ЛЁС БЕЛАРУСКІХ ЗБОРАЎ, ВЫВЕЗЕНЫХ У БАВАРЫЮ

**Мікалай Нікандраў** узначальвае Аддзел рэстытуцыі Дэпартамента па захаванню культурных каштоўнасцей Міністэрства культуры Расіі. У зборніку матэрыялаў канферэнцыі ЮНЕСКО змешчаны яго даклад "Праблемы выяўлення культурных каштоўнасцей, якія належаць адной краіне і перамешчаны на тэрыторыю другой краіны ў гады Другой сусветнай вайны".

Я ўзрадаваны магчымасцю з аказіяй адправіць у Цэнтр імя Ф. Скарыны пакет матэрыялаў пра *вернутую* (падкрэслена ў арыгінале. — *Рэд.*) з амерыканскай зоны акупацыі Германіі беларускую музейную маёмасць. З-за недахопу часу паведамляю толькі самае істотнае.

Некалькі слоў пра сутнасць так званых "картак уласнасці", якія накіроўваюцца Вам. Яны складзены амерыканцамі ў пасляваенны час. Гэтыя карткі мы атрымалі з Бундэсархіва ў г. Кобленцы ў 1997 г. — ад вядомага Вам прафесара Вольфганга Айхведэ (праз Г. Коля і Б. Ельцына) у выглядзе пласцінкі CD-ROM.

Многа часу пайшло ў нас на раздрукоўку, пераклад. Картачкі складзены амерыканцамі на кожны прадмет, выяўлены ў тайных і яўных сховах. Як цяпер высвятляецца, не ўсе савецкія прадметы пайшлі ў СССР, а самыя дакументы (г. зн. карткі) савецкім уладам разам з прадметамі не перадаваліся. Прадметы [мастацтва. — *Рэд.*] змяшчаліся ў скрынкі, упакоўкі і г. д. і перадаваліся "оптам", па колькасці "месцаў".

Гэтую загадку яшчэ належыць разгадаць.

Калі Вы звернецеся да тэксту майго выступлення ў Мінску [на канферэнцыі пад эгідай ЮНЕСКО па пытаннях рэстытуцыі. — *Рэд.*], дзе я спрабаваў паказаць перамяшчэнні вернутага — у Кіеў, Мінск, Ноўгарад, Пушкін, дык пабачыце, што беларускія рэчы аказаліся ў Пушкіне [пад Санкт-Пецярбургам. — *Рэд.*]. Спецыяльна рыхтую для Вас канкрэтную інфармацыю па гэтаму эпізоду.

Некалькі слоў пра структуру картак.

У правым верхнім куце ўказана месца (хохштат і інш.) знаходжання прадмета — ніжэй указаны "Mun" — Мюнхен, дзе размяшчаўся цэнтральны зборны пункт [вывезеных нацыстамі твораў мастацтва. — *Рэд.*]. Адпаведныя лічбы — парадкавыя нумары знаходжання і інвентарызацыі прадметаў.

Для магчымай ідэнтыфікацыі могуць дапамагчы "памеры", "матэрыял", "маркіроўка" і "прадмет".

Астатняе: "дата паступлення", "адпраўка", "гісторыя" і г. д. мала што даюць. Асноўныя грузы былі адпраўлены з Берліна 7 лістапада 1947 г. у СССР.

Фатаграфіі, відаць, можна атрымаць толькі ў Кобленцы.

Я выбраў тыя карткі, якія (няхай і не прама, а ўскосна) указваюць на беларускае (у прыватнасці, мінскае) паходжанне экспанатаў.

Калі Вы сустрэнецеся з цяжкасцямі ў дадзенай справе — паведамляйце, задавайце пытанні — чым магу, дапамагу.

Трэба завяршацца. Бядота і забыццё працэса пошуку з боку дзяржавы невытлумачальныя. Але мы ўсё ж коштам спонсарства “выцягваем” пяць тамоў каталога стратаў. Ужо ў нас ёсць вопыт, які таксама можам перадаць.

Цёпла і светла згадваюцца імгненні прабывання ў Мінску…

Мы заўсёды гатовы да сумеснай з Вамі работы.

*Ад рэдакцыі.* Матэрыялы, прысланыя з Масквы (усяго звыш 200 картак), былі перададзены Надзеі Высоцкай, вядомаму мастацтвазнаўцу з Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі для ідэнтыфікацыі іх з адпаведнымі зборамі (паводле каталожных нумароў) і ваеннымі стратамі. Вынікаў з надзеяй чакаем. А пакуль яны прыйдуць, публікуем асноўныя звесткі пяці з картак, атрыманых (праз Маскву) з архіва ў Кобленцы, — каб зацікавіць імі грамадскасць.

---

№№ п/п
367

| | |
|---|---|
| *Номер документа:* | Mun 14542 Hochtedt 598/ 129 |
| *Классификация:* | Живопись (картина) |
| *Автор:* | K Слендзинский Н. Литва, Вильно D |
| 1891 г. | |
| *Размеры:* | 90 x 65 |
| *Предмет:* | G Принц Тадеуш Бо[г]данович |
| *Материал:* | Полотно, масло |
| *Состояние в момент поступления:* | хорошее |
| *Маркировка:* | (Из B 323/ 578: 457 - 08 - 76 письмо от 12.06.1945 г.) // 140 красный номер // BDM - 1 - 239 (1718) // 2549 |

---

№№ п/п
368

| | |
|---|---|
| *Номер документа:* | Mun 14542 Hochtedt 598/ 13 |
| *Классификация:* | Живопись (картина) |
| *Автор:* | D 1732 г. |
| *Размеры:* | 98 x 80 |
| *Предмет:* | T Портрет принца Игнаца из Минска |
| *Материал:* | Полотно, масло |
| *Состояние в момент поступления:* | плохое, без повреждений |
| *Маркировка:* | (Из B 323/ 578: 457 - 08 - 76 письмо от 12.06.1945 г.) // 4 красный номер / 5790 -3 |

---

№№ п/п
374

| | | |
|---|---|---|
| *Номер документа:* | Mun 14542 Hochtedt | 598/ 135 |
| *Классификация:* | Живопись (картина) | |
| *Автор:* | D 20 век | |
| *Размеры:* | 75 x 60 | |
| *Предмет:* | G Портрет принца 18 века // Иозеф Ельский | |
| *Материал:* | Полотно, масло | |
| *Состояние в момент поступления:* | слегка поврежден | |
| *Маркировка:* | BDM 1 - 228 (1707) | |

№№ п/п
2711

| | | |
|---|---|---|
| *Номер документа:* | Mun 14528 Hochtedt | 584/ 8 |
| *Классификация:* | Живопись (картина) | |
| *Автор:* | D 17 век | |
| *Размеры:* | 210 x 123 | |
| *Предмет:* | T Георгиус Радзивилл 1541 | |
| *Материал:* | Полотно, масло | |
| *Состояние в момент поступления:* | хорошее | |
| *Маркировка:* | (Из B 323/ 578: 457 - 08 - 76 письмо от 12.06.1945 г., приложение) // красный номер 297 // | |

№№ п/п
2729

| | | |
|---|---|---|
| *Номер документа:* | Mun 14530 Hochtedt | 586/3 |
| *Классификация:* | Живопись (картина) | |
| *Автор:* | D 17 век (D 1676 г. ?) | |
| *Размеры:* | 90 x 130 | |
| *Предмет:* | T Андрей Бакстах Завиша, староста Минска, 1676 г. | |
| *Материал:* | Полотно, масло | |
| *Состояние в момент поступления:* | хорошее | |
| *Маркировка:* | (Из B 323/ 578: 457 - 08 - 76 письмо от 12.06.1945 г., приложение) // 292 (красный номер) // Mus. I - 244 (1723) | |

## ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ФРАНЦЫІ

*26 красавіка – 3 мая ў Францыі, у дэпартаменце Поўнач–Па-дэ-Кале, прайшлі Дні беларускай культуры. Яны ладзіліся Беларускім таварыствам дружбы сумесна з грамадскасцю дэпартамента і былі прымеркаваны да гадавіны Чарнобыля. Мы папрасілі старшыню таварыства* ***Арсена Ваніцкага****, які ўзначальваў нашу дэлегацыю, расказаць пра ход і вынікі Дзён.*

— Стасункі Беларускага таварыства дружбы з грамадскасцю Францыі пачалі наладжвацца дзесяткі гадоў таму, калі ўпершыню адбыліся Дні Беларусі ў Ронскім дэпартаменце. Пасля гарады Ліён, Воз-ан-Влен, Вілербан, Венісьё, Лімож, Клермон-Феран усталявалі партнёрскія адносіны з Мінскам, Оршай, Магілёвам, Жодзіна, Гродна, Гомелем. Паступовa складвалася сістэма ўзаемаадносін, якая спрыяла спрадвечнаму пачуццю блізкасці нашых народаў, глыбокай узаемнай цікавасці да пазнання здабыткаў культур.

Асаблівымі для нашых адносін сталіся апошнія дзесяць гадоў, калі наладзіліся грунтоўныя ўзаемаадносіны з асацыяцыяй “Французская народная дапамога” дэпартамента Поўнач–Па-дэ-Кале. Як гаворыць Жан Луі Каленс, генеральны сакратар рэгіянальнай асацыяцыі: “Мы працуем дзеля партнёрства, дзеля ўсталявання паміж людзьмі карысных адносін”.

Найперш няўрымслівых актывістаў гэтай дабрачыннай арганізацыі хвалююць чарнобыльскія праблемы. Яны арганізавалі аздараўленне дзяцей з Магілёўскай вобласці ў французскіх сем’ях. Затым устанавілі апякунства над хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія адчулі цеплыню адносін да іх раней незнаёмых людзей. Іх зноў і зноў запрашаюць да сябе на канікулы гасцінныя гаспадары. Вельмі даспадобы тое, што французскія і беларускія сем’і ўсталявалі добрыя адносіны паміж сабой, сталі як бы пароднёнымі. Некаторым дзецям, у якіх, на жаль, не было бацькоў, пашанцавала ў жыцці адчуць мацярынскую ласку — іх усынавілі тыя французскія сем’і, якія не мелі сваіх дзяцей. У час гутаркі ў доме Таон-Гілен і Жана-Клода Фослен, што ў Данэне, гаспадары толькі і гаварылі аб маючай адбыцца новай сустрэчы з Таццянай і Марынай Яфіменка з Краснаполля, каб разам адсвяткаваць іх дні нараджэння. У гэтым утульным доме давялося пачуць, што французскія сем’і вельмі хочуць, калі справа ідзе аб усынаўленні, мець сваіх будучых дачок і сыноў беларускага паходжання. Нават не гавораць чаму, але толькі наш радавод вабіць французаў. А мо іх пачуцці пераклікаюцца са словамі мэра горада Обі Саланжэра Каро, якія мы пачулі ў час яго выступлення на вечарыне дружбы: “На мове сэрца мы размаўляем сёння паміж сабой. Ёсць падставы сказаць, што нашы дзеці — артысты, якія так хораша дэманструюць сук-веце культуры Беларусі, з’яўляюцца пасламі спадзявання на адзіную, у буду-

чым прывабную Еўропу”. Ці не ў гэтым і праяўляюцца ўсе адценні жыцця на мове сэрцаў?!

Можна ганарыцца падобным прызнаннем, як ганарацца бацькі сваімі дзецьмі. Мне не аднойчы давялося сустракацца з сям’ёй Мішэля Марэн, якая пазнала радасць жыцця, калі ў іх з’явілася маленькая дачка Алёна. Дзяўчынка, на вялікі жаль, не зведала бацькоўскай ласкі на роднай зямлі— ёй давялося пачынаць жыццё ў Магілёўскім дзіцячым доме. Больш чым роднай стала ёй французская сям’я. У дэпартаменце Па-дэ-Кале спазнала дзяўчынка сямейную ласку, чалавечае шчасце, спадзяюся, на ўсё жыццё.

Добрыя словы прыемна не толькі пачуць, але і выказаць іх іншым людзям. Вядома ж, асабліва тым, якія са шчырасцю адносяцца да беларускага народа. Адчулі мы гэта, у каторы ўжо раз, на першамайскай вечарыне ў Палацы культуры гарнякоў г. Данэна. Там панавала прыўзнятая атмасфера. Мноства людзей, сярод якіх тыя, што ўжо наведалі Беларусь, прыйшлі ўшанаваць праходзячыя і ў іх горадзе Дні Беларусі. Гучалі вядомыя мелодыі французскіх кампазітараў, знакамітая “Марсельеза”, аўтарам якой з’яўляецца Клод Жазэф Ружэ, “Каб не было цябе” Джо Дасэна. Людзі, нават пажылыя, танцавалі. Сваімі справамі заклапочаны былі дзеці. Зала прыціхла са з’яўленнем на сцэне народнага ансамбля Белдзяржуніверсітэта “Крыжачок”. Цішыня была нядоўгай — да першых узрушаных воплескаў у канцы беларускай сюіты. Усё часцей і часцей рытм музыкі, асабліва полечкі-трасухі суправаджаўся воплескамі ўсіх прысутных. Абыякавасці не было. Здавалася, хваляваўся толькі Бернар Талоці. Ён быў галоўным арганізатарам гэтай сяброўскай сустрэчы і жадаў, каб усё атрымалася як найлепей. Не толькі жадаў, але і забяспечыў сяброўскае свята, на якім не адчувалася розніцы паміж людзьмі. Яны былі жаданыя адзін аднаму з сярэдзіны дня да позняга вечара. І нездарма гучалі і на гэты раз словы: “Людзі, якія святкуюць разам, атрымліваючы пры гэтым асалоду, як правіла, застаюцца сябрамі”.

Бернар — даўні наш сябар, які з натхненнем кожны год прыязджае на Беларусь.

— Што Вас вабіць у беларусах? — запытаў я яго па дарозе ў аэрапорт Бовэ, што пад Парыжам, калі мы пакідалі гасцінных французскіх сяброў, вяртаючыся дадому.

— Цеплыня адносін паміж людзьмі, іх таварыскасць. З вамі можна лёгка ўсталяваць кантакты, хутка ўзнікае давер. І яшчэ — мы з удзячнасцю адчуваем вялікую цікавасць вашага народа да Францыі. Я абавязкова ствару, — прадоўжыў ён, — Таварыства дружбы “Францыя—Беларусь”, гэта пытанне для мяне ўжо вырашана. Тыдзень Беларусі, які, на мой погляд, прайшоў добра, стымуляваў цікавасць і павагу людзей да вашай краіны, жаданне больш пазнаць яе. Народны ансамбль танца, высокае, нязвыклае майстэрства студэнтаў, якія не з’яўляюцца прафесіяналамі, — для нас адкрыццё. Гэта сведчыць аб высокай культуры народа.

## ГУТЭНБЕРГ СУСТРАКАЕЦЦА СА СКАРЫНАЙ

Чытач скажа, што такое немагчыма: нямецкі і беларускі першадрукары жылі ў розны час і ў розных месцах. І, тым не менш, іх сустрэча адбылася на… сцэне лялечнага тэатра Беларускай акадэміі мастацтваў. Гутэнберг, як і належыць, "шпрэхаў" па-нямецку, а Скарына адказваў яму на чысцюткай беларускай мове. І нічога — паразумеліся. Тым больш што гаворка ішла пра знаёмую ім кнігадрукарскую справу.

Немцы і беларусы добра разумеліся таксама на сустрэчы, наладжанай Беларускім таварыствам немцаў "Wiedergeburt", наладжанай у Беларускім таварыства дружбы 24 красавіка гэтага года. Пачалася яна нетрадыцыйна — з лялечнага спектакля. Каментаваў яго (вядома ж, па-нямецку) кандыдат мастацтвазнаўства, аўтар нарысаў пра Германію Яўген Шунейка. А потым пайшла гаворка пра беларуска-нямецкае культурнае ўзаемадзеянне ад Скарыны да нашых дзён. І ўзнікалі розныя ідэі. Напрыклад, разам з Цэнтрам імя Ф. Скарыны і Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў адзначыць ("круглым сталом" і выданнем зборніка матэрыялаў) 250-годдзе з дня нараджэння Гётэ. А ў перспектыве — разам выдаваць штогоднік. Тым больш што і грошы на яго нібыта ёсць — тыя, што завяшчаў магістрату г. Ляймена ў Германіі Юрый Попка, які стварыў там Інстытут беларусаведы, выдаў каля дзесяці зборнікаў і стварыў Беларускі музей.



*Першая друкаваная кніга ў свеце*



*Павільён І. Гутэнберга ў Майнцы*

У мастацкай частцы сустрэчы танцавалі маладыя немкі з Віцебска. Прысутныя агледзелі фотавыстаўку, прывезеную з Майнца і прысвечаную ўраджэнцу

гэтага горада Гутэнбергу. Бо ў наступным годзе будзе адзначацца 600-годдзе з дня нараджэння пачынальніка кнігадруку.

***Таццяна Горбач,***
*старшыня камітэта Беларускага таварыства немцаў "Wiedergeburt"*

## "БЛІСКАВІЦА" ЗІХАЦЕЛА Ў БЕЛЬГІІ

Не аднойчы беларусы радавалі сваім майстэрствам, талентам бельгійскіх гледачоў. Напрыклад, у мінулым годзе дзявочы хор Беларускага калежда мастацтваў, якім кіруе выкладчыца Галіна Цітова, на 46 Еўрапейскім фестывалі хораў у бельгійскім горадзе Нээрпельдзе атрымаў Першую прэмію. Важна падкрэсліць, што ўдзел у фестывалі прымалі 146 хораў з розных краін Еўропы. Стрыманыя бельгійцы крычалі: "Брава, Мінск!"



*Беларускія музыкі іграюць для жыхароў Антверпена*

Бліскуча выступіў на Міжнародным фестывалі фальклору ў бельгійскім горадзе Бернэме народны ансамбль "Магілёўцы". Жыхары гэтага і іншых гарадоў, дзе з дабрачыннымі канцэртамі выступілі "Магілёўцы", падпявалі пры выкананні многіх беларускіх песень.

І вось знакаміты не толькі ў Бельгіі, але і ў Еўропе Каралеўскі Элізабет-хол у Антверпене, дзе выступаў венскі балет, знакамітыя спевакі Поці, Святланаў, лепшыя сімфанічныя аркестры свету, у лютым гэтага года прымаў беларускі ансамбль "Бліскавіца". Два дні ўсе дзве тысячы месцаў у зале былі заняты. Кожны нумар у выкананні ансамбля суправаджаўся авацыяй, а гледачам не хацелася развітвацца з артыстамі.

"Бліскавіца" — ансамбль харэаграфічных і музычных мініяцюр. Кожны нумар — цудоўны маленькі спектакль. Вольная пластыка, мадэрн, фальклор — усе гэтыя накірункі шырока выкарыстоўваюцца ансамблем. Балетная група, аркестр, вакал даюць магчымасць стварыць разнастайнасць жанраў.

Кіруе ансамблем прыгожая, разумная, неўтаймаваная жанчына — Ірына Канавальчык. Яна скончыла Беларускі універсітэт культуры. Шукала аднадумцаў, цікавых людзей, майстроў. З Міколам Дудчанкам, харэографам, Ігарам Леўчуком, цяперашнім музыкальным кіраўніком, звязаны пэўныя этапы развіцця ансамбля. Поспех ансамбля, як лічыць Канавальчык, абумоўлены тым, што кожны яго член — значная асоба, творца, майстар.

Сёння многа планаў у кіраўніка і яе сяброў. Яны шукаюць новае, ні на кога не хочуць быць падобнымі і шчыра аддаюць свой талент людзям. Выступаючы ў розных краінах (Францыя, Іспанія, Германія, Карэя, Люксембург, Галандыя) яны добра разумеюць, што з'яўляюцца візітнай карткай Беларусі. Цудоўнай візітнай карткай.

У час гастроляў ў Бельгіі з артыстамі сустракаўся вядомы ўжо чытачам "Кантактаў і дыялогаў" сябра Таварыства "Беларусь – Бельгія" і сябра Беларусі шэвалье Рыко Масанж дэ Каломбэ, які ўжо некалькі разоў прыязджаў у Беларусь з гуманітарнай дапамогай, цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі. Ён прысутнічаў на канцэртах "Бліскавіцы", зняў пра яе тэлефільм. Як і мы, ён радуецца поспехам гэтага цікавага ансамбля.

***Тамара Антановіч**, старшыня Таварыства "Беларусь – Бельгія"*

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

• • •

У Маскве, у Цэнтральным доме літаратара адбыўся Устаноўчы з'езд прадстаўнікоў беларускіх суполак Расіі. На ім абвешчана стварэнне новай арганізацыі — Міжрэгіянальнага аб'яднання беларусаў Расіі, куды ўвайшлі нашы суайчыннікі з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Іркуцка, Сургута, Краснаярска і інш. Старшынёй Рады таварыства выбраны Генадзь Лех.

• • •

У сувязі з 500-годдзем надання цяперашняй беларускай сталіцы магдэбургскага права ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстаўка "Мінск — горад вольны". У Цэнтры імя Ф. Скарыны прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная гэтай гадавіне. У ёй прынялі ўдзел вядомыя навукоўцы Анатоль Грыцкевіч, Георгій Штыхаў, Іосіф Хаўратовіч, Алег Трусаў і інш.

• • •

Цэнтр сучаснага мастацтва Zamek Ujazdowski ў Варшаве, Польскі інстытут ў Мінску і Музей выяўленчага мастацтва Беларусі арганізавалі фотавыстаўку "Блізка і далёка". На ёй былі прадстаўлены творы Войцеха Пражмоўскага (Польшча), Мар'юша Германовіча (Францыя). 4 мая, на адкрыцці выстаўкі, выступілі пасол Польшчы ў Беларусі Мар'юш Машкевіч, дырэктар музея Васіль Шаранговіч і інш.

• • •

У Іркуцку адкрылася Бібліятэка беларускай літаратуры. Сябры Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага могуць карыстацца кнігамі.

• • •

Лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Украіны ў галіне навукі і тэхнікі стаў гамяльчанін — доктар тэхнічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта траспарту Леанід Сасноўскі.

• • •

Пры садзейнічанні Міжнароднага камітэта беларусістаў Карэліцкі краязнаўчы музей распачаў перапіску з Евай Адахоўскай, унучатай пляменніцай ураджэнца Беларусі і нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі. З Сант'яга яна прыслала 16 сямейных здымкаў гэтага вучонага, падарожніка і пісьменніка.

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ДАВЕДНІКА

### ВАРОНА ВАЛЕРЫЙ



***Варона Валерый Міхайлавіч*** *(5.03.1940, г. Рэчыца Гомельскай вобл.), эканаміст, доктар эканамічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Украіны.*

В. Варона паходзіць з сям'і беларусаў. У 1954 г. скончыў Рэчыцкую СШ № 7. Вучыўся ў Гомельскім тэхнікуме чыгуначнага транспарту (1954–1958). Працаваў на станцыі Фастаў-ІІ і Казацін-І Паўднёва-Заходняй чыгункі. Пасля службы ў радах Савецкай Арміі (1959–1961) паступіў на эканамічны факультэт Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Шаўчэнкі. У час вучобы працаваў па спецыяльнасці ў аддзеле тэхніка-эканамічных даследаванняў Інстытута УкрНДІпластмаш. Пасля паспяховага заканчэння універсітэта ў 1967 г. вучыўся ў аспірантуры Кіеўскага інстытута народнай гаспадаркі (кафедра эканомікі). Да 1988 г. работа В. Вароны звязана з гэтым інстытутам: быў там асістэнтам кафедры палітэканоміі, дацэнтам, дэканам, прарэктарам па вучэбнай рабоце. У 1981–1985 гг. узначальваў лабараторыю НОП аддзела АСУВ Кіеўскага матазавода. Загадваў аддзелам сацыялогіі працы аддзялення сацыялогіі Інстытута філасофіі НАН Украіны, аддзелам сацыялогіі рыначнай эканомікі Інстытута сацыялогіі НАН Украіны (1988–1992). З 1992 г. займае пасаду дырэктара гэтага інстытута.

У галіне эканомікі і сацыялогіі В. Варона апублікаваў многа навуковых прац, сярод якіх — "Развіццё ўласнасці і ўдасканаленне сацыялістычных вытворчых адносін" (1971), "Канцэпцыя гаспадарання" (1989), "Прадпрымальнік Украіны" (1995), "Эканамічная сацыялогія" (у сааўтарстве, 1995). В. Варона займаўся праблемамі, звязанымі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, якім прысвяціў сваё даследаванне "Сацыяльныя вынікі Чарнобыльскай катастрофы" (1996).

***Ірына Тамільчык***

# ГРЫЦКЕВІЧ ВАЛЯНЦІН

***Грыцкевіч Валянцін Пятровіч** (30.03.1933, Мінск), вучоны-гісторык, медык, грамадскі дзеяч, кандыдат медыцынскіх навук.*

В. Грыцкевіч нарадзіўся ў сям'і настаўніка і ўрача. Скончыў у Мінску сярэднюю школу (1950), Інстытут замежных моваў (1955), медыцынскі інстытут (1956), гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1957). Працаваў урачом ва Узлянах Рудзенскага р-на Мінскай вобл. (1956–1957), у Мінску (1957–1969), Ленінградзе (1969–1971), старшым навуковым супрацоўнікам Ваенна-медыцынскага музея (1971–1995). Адначасова выкладаў гісторыю ў Ленінградскім інстытуце культуры (з 1980), з 1988 г. — дацэнт кафедры музеязнаўства гэтага ж інстытута (цяпер Пецярбургскі універсітэт культуры).



Навуковыя даследаванні В. Грыцкевіча прысвечаны гісторыі беларускай медыцыны (кандыдацкая дысертацыя, абароненая ў 1963 г.) — кнігі "З факелам Гіпакрата" (Мн., 1987), "Адысея наваградскай лекаркі: Саламея Русецкая" (Мн., 1989), біяграфістыцы — у першую чаргу беларускай інтэлігенцыі ў замежжы — "Падарожжы нашых землякоў" (Мн., 1968), "Дзесяць шляхоў з Вільнюса" (Вільнюс, 1979, на літоўскай мове), "Нашы славутыя землякі" (Мн., 1984), "Ад Нёмана да берагоў Ціхага акіяна" (Мн., 1986), "Эдуард Пякарскі" (Мн., 1989), а таксама біяграфістыцы медыкаў — "Успаміны і дзённікі ў фондах музея: Анатаваны каталог" (Л., 1980), "Ваенныя медыкі — кавалеры ордэна Славы трох ступеняў" (Л., 1975, сумесна з Ф. Сатрапінскім), апісанням падарожжаў як гістарычнай крыніцы — "Шляхі вялі праз Беларусь" (Мн., 1980, сумесна з А. Мальдзісам), тэорыі і методыцы гістарычнага крыніцазнаўства (шэраг артыкулаў), методыцы вывучэння і выкладання гісторыі, асабліва ў Беларусі (шэраг публікацый 1988–1999 гг.), узаемным руска-беларускім перасяленням у XIV–XVIII стст. — "Беларуска-рускія перасяленні ў XIV–XVIII стст." (Спадчына. 1993. № 3–5) і інш. У апошняе дзесяцігоддзе В. Грыцкевіч склаў першую ў свеце манаграфію, дзе асветлена гісторыя музейнай справы ў свеце (рыхтуецца да друку ў Мінску і ў Пецярбургу).

В. Грыцкевіч — адзін з арганізатараў і старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу (з 1989), сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, Міжнароднага ПЭН-цэнтра, ганаровы член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, член Рускага геаграфічнага таварыства, Пецярбургскага таварыства гісто-

рыкаў медыцыны, замежны член Беларускага таварыства гісторыкаў медыцыны, член Вялікай рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”.

***Мікалай Нікалаеў*** *(Санкт-Пецярбург)*

## МІХАЛЕЎСКІ СЕРАФІН (КОРЧАК-)

***Міхалеўскі Серафін (Корчак-)*** *(18.05.1923, Брэст-над-Бугам, цяпер Брэст), польскі філосаф, філолаг, паэт.*



С. Міхалеўскі паходзіць з сям’і радавітай шляхты. Дзяцінства прайшло ў в. Росахі на Пружаншчыне. Тут, у польскай школе, атрымаў пачатковую адукацыю. У 1939 г. скончыў Польскую гімназію А. Міцкевіча ў Пружанах, у 1941 г. — беларускую сярэднюю школу № 1. У гэтым жа годзе вывезены з сям’ёй у Сібір. У 1941–1943 гг. вучыўся ў Новасібірскім педагагічным інстытуце. У час Другой сусветнай вайны С. Міхалеўскі быў прызваны ў Войска Польскае. У 1944 г. скончыў афіцэрскую артылерыйскую школу ў Кастраме. Камандзірам батарэі ў радах 3-га Берлінскага палка I дывізіі пяхоты імя Т. Касцюшкі дайшоў да Берліна. Тройчы быў цяжка паранены. Узнагароджаны ордэнам Віртуці мілітары і медалямі. Пасля вайны вучыўся ва універсітэтах Лодзі, Вроцлава, Варшавы, пасля заканчэння якіх атрымаў дыпломы па філасофіі і англійскай філалогіі. Займаўся таксама рускай філалогіяй. С. Міхалеўскі працаваў навуковым супрацоўнікам у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, у Інстытуце матэматычных лічбавых машын, у Бібліятэцы Польскай акадэміі навук, у рэдакцыі футуралогіі. Займаўся навукова-даследчай дзейнасцю ў галіне філасофіі, рэлігіі, філалогіі. Даследаваў рэлігійна-філасофскае вучэнне старажытнай Індыі — ёгу. Гэтай тэме прысвечаны каля дзесяці яго навуковых рэфератаў, з якімі ён выступаў у варшаўскіх Дамах культуры, і яго тэарэтычная праца “Уводзіны да трансцэндэнтальнай медытацыі”. Склаў два санскрыцка-польскія слоўнікі. У Варшаўскім універсітэце С. Міхалеўскі наладзіў дзве першыя ў Еўропе выстаўкі, прысвечаныя вучэнню ёгі. У галіне рэлігіі яму належыць тлумачэнне догмату пра Святую Тройцу і тэадыцыю, устанаўленне сапраўднага аблічча Багародзіцы і Збавіцеля. Пераклаў на польскую мову праваслаўную імшу святога Іаана Златавуста. С. Міхалеўскі — аўтар шматлікіх прац па лінгвістыцы. Ён склаў селектыўную бібліяграфію па 900 мовах (слоўнікі і граматыкі), бібліяграфію караімскіх кніг, вывучаў лексічныя запазычанні ў караімскай мове, распрацаваў праект рэформы

кітайскага іерагліфічнага пісьма. У штомесячніку "Nowe książki" апублікаваны яго рэцэнзіі на многія навуковыя кнігі.

С. Міхалеўскі шырока вядомы ў Польшчы як паэт. Яго паэтычныя творы на англійскай, польскай, беларускай мовах друкаваліся ў штотыднёвіку "Ніва" і розных перыядычных выданнях Варшавы. Ён уваходзіць у Міжнароднае таварыства паэтаў з 60 краін (International Society of Poets) у ЗША. У Музеі славутых паэтаў (The International Poetry Hall of Fame) адна з экспазіцый прысвечана С. Міхалеўскаму. Дзве яго паэмы і некалькі празаічных твораў, пераважна ўспаміны, змешчаны на старонках газеты "Раённыя будні", што выходзіць на радзіме С. Міхалеўскага ў Пружанах Брэсцкай вобл. Выдаў некалькі зборнікаў уласных афарызмаў на польскай мове. Афіцыйна засведчана яго валоданне 17 мовамі.

***Ірына Тамільчык***



## ПІСКУНОВА ВАЛЯНЦІНА

***Піскунова Валянціна Аляксандраўна*** *(28.03.1941, в. Рудня-Целяшоўская Гомельскага р-на), прэзідэнт асацыяцыі беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі "Беларускі шлях", дырэктар фірмы "Ільгюцыемс", беларускі грамадскі дзеяч.*

У 1963 г. скончыла Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (факультэт "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва). Атрымала спецыяльнасць інжынера-будаўніка. Накіравана на работу ў Латвію. Займала розныя пасады — ад майстра да намесніка кіраўніка буйнейшага ў рэспубліцы Рыжскага трэста буйнапанельнага домабудаўніцтва. Пасля яго рэарганізацыі пераведзена на пасаду намесніка начальніка Упраўлення забеспячэння капітальнага будаўніцтва Дзяржснаба Латвіі.

В. Піскунова паралельна сумяшчала службовыя абавязкі з шырокай грамадскай дзейнасцю. На працягу дзесяці гадоў працавала дэпутатам Ленінградскага райсавета г. Рыгі. Такі давер выбаршчыкаў невыпадковы. Многім дапамагла яна атрымаць кватэры, працаўладкавацца, вырашала пенсійныя справы, клапацілася аб уладкаванні дзяцей у дашкольныя ўстановы. Як выпускніцы прэстыжнага ВНУ, а потым і высокакласнаму спецыялісту, які праявіў сябе непасрэдна на будоўлі, а праз некаторы час — у апараце міністэрства, ёй быў аказаны давер узначаліць камісію народных дэпутатаў па архітэктуры і будаўніцтву. У тым, што раён Задзвіння адзін з найпрыгажэйшых у латвійскай сталіцы — немалая заслуга старшыні названай камісіі.

Цяпер В. Піскунова працуе дырэктарам фірмы "Ільгюцыемс", а ў чэрвені

1996 г. абрана прэзідэнтам асацыяцыі беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі “Беларускі шлях”. Яна знаходзілася ля вытокаў стварэння беларускіх таварыстваў “Світанак”, “Прамень”, Латвійскага фонду беларускай культуры. Ініцыятар і арганізатар стварэння газеты беларусаў Латвіі “Прамень”. Пры яе непасрэдным матэрыяльным садзеянні першы нумар выйшаў у канцы снежня 1994 г. Гэтым самым быў узноўлены беларускі друк у Латвіі. В. Піскунова — намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны “Прамень”, член Вялікай рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Аказвае значную дапамогу развіццю беларускай культуры ў Латвіі, фінансуе газету “Прамень”. Ініцыятар стварэння культурнага камерцыйна-інфармацыйнага цэнтра. Шануе беларускую мову, беларускія традыцыі, карыстаецца вялікай павагай сярод сваіх суайчыннікаў.

***Лявон Шакавец*** *(Рыга)*

## РОВІНА ХАНА

***Ровіна Хана*** *(1888, м. Беразіна Ігуменскага пав. Мінскай губ. – 1980, Тэль-Авіў), габрэйская артыстка, ганаровы доктар філасофіі Тэль-Авіўскага універсітэта.*

Бацька Х. Ровінай, любавіцкі хасід Давід Рубін, гандляваў драўнінай. Маці, Сара Рыўка, была вышывальшчыцай. Хана вучылася ў хедэры, у рускай школе, па заканчэнню якой пераехала ў Екацерынаслаў, дзе выкладала рускую мову, працавала гувернанткай. Затым пераехала ў Варшаву, дзе пазнаёмілася з Н. Цемахам, заснавальнікам габрэйскага нацыянальнага тэатра “Габіма”. У 1927 г., калі трупа выступала ў ЗША, частка акцёраў вырашыла застацца ў Амерыцы. Пасля Х. Ровіна з “Габімой” паехалі ў Палесціну. З таго часу іх творчы лёс звязаны з Ізраілем. Сярод найбольш значных роляў Х. Ровінай — донна Ізабела (“Мараны” С. Цвейга), Мірэле (“Мірэле Эфрат” Я. Гордзіна), маці ў аднайменнай п’есе К. Чапека, матухна Кураж Б. Брэхта, Медэя Эўрыпіда.

У 1955 г. Х. Ровіна была ўзнагароджана прэміяй Цемаха і званнем “Дачка і слава нашага народа”, у 1957 г. — вышэйшай нацыянальнай узнагародай краіны “Прэміяй Ізраіля”. У 1977 г. актрыса, якую сучаснікі называлі “першай лэдзі ізраільскага тэатра”, апошні раз выйшла на сцэну.

***Лявон Юрэвіч*** *(Нью-Йорк)*

# З ПОШТЫ РАЗДЗЕЛА

## ПРА МЕСЯЦАХОД І ДАЧЫНЕННЕ ДА ЯГО БЕЛАРУСАЎ

Вялікі дзякуй за ліст з прапановай, каб я напісаў для вас сваю біяграфію і зычлівае стаўленне да маёй асобы. Але, здаецца, Вы перабольшваеце маё значэнне ў беларускай справе. Таму наўрад ці мая асоба заслугоўвае асаблівай ціка-

васці. Я ж не Янка Купала ці Леў Талстой, каб вывучаць кожны мой жыццёвы крок. Адзінае, што падаецца мне патрэбным, — растлумачыць штучны выраз “практычная касманаўтыка”. Я скарыстаў яго па застарэлай звычцы таемнасці, якая выхавана дзесяцігоддзямі. Быў час, калі нам забаранялі казаць, кім, дзе і над чым мы працуем, увогуле пра ўсё, што датычыцца працы. Пасля працоўнага дня абшукоўвалі сталы, нават маглі патрабаваць паказаць свой прыватны нататнік і г. д. Пэўныя падставы для таго, вядома, былі, бо ў тыя гады навуковае і вайсковае ўжыванне ракет было непарыўным. Дый яшчэ ва ўмовах халоднай вайны. Але час змяніўся. Цяпер нам дазваляецца казаць усё, апроч тэхнічных падрабязнасцей. Па нашай установе, як па іншых падобных, шлындаюць іншаземцы — ад амерыканцаў да кітайцаў. Адно дысцыпліна засталася ранейшая, больш строгая за вайсковую. Таму крышачку раскрыю гэтае загадкавае вызначэнне “практычная касманаўтыка”.

14 гадоў майго жыцця звязана з распрацоўкай месяцавай базы. Справа прасунулася так далёка, што ў 1980 г. мы былі практычна гатовыя вырабляць і грунтаваць на Месяцы спачатку часовае, потым сталае селішча. Але, па-першае, не было ў дзяржавы гэткіх грошай, а па-другое, згарнулі праграму ракеты Н-1, якая мэтава рабілася для палётаў на Месяц. Бо з ёй былі тэхнічныя цяжкасці, ЗША паспелі закінуць туды сваіх астранаўтаў, а большага не жадалі. Савецкае кіраўніцтва імкнулася апярэдзіць іх, але не здолела. Таму чыннік “прыярытэту”, які вельмі моцна ўплываў у савецкі час на касманаўтыку, знік. Падрыхтоўка ж экспедыцыі вялася вельмі сур’ёзна, для першых палётаў мы гатовілі лёгкі месяцаход накшталт амерыканскага “Lunar Rover Vehicle”, як першы практычны крок ад нашай установы. Зрэшты, наш першы практычны крок ужо быў — бур з вяртаннем грунта Месяца на Зямлю.

Потым наша праца згарнулася да стварэння аўтаматычнага месяцаходу — не таго, што быў зроблены ў Санкт-Пецярбургу ў інстытуце майго земляка і сябра бацькі-нябожчыка, дырэктара і д. т. н. Старавойтава Васіля Сцяпанавіча. Тут дарэчы расказаць адну гісторыю. Я добра ведаў Старавойтава, ён наведваў нашу сям’ю, калі наязджаў у Маскву, я ліставаўся з ягоным бацькам, які быў у Маладзечне начальнікам міліцыі, там і памёр. Таму для мяне была поўная неспадзяванка, што вядомая палітычная дзяячка Галіна Старавойтава — ягоная дачка. Проста так склалася, што я яе не бачыў. Пазнаёміліся толькі на адкрыцці памятнай дошкі Алесю Адамовічу ў Казіхінскім завулку. Яна ніколькі не падобная на бацьку, урадзілася ў маці.

Увогуле слушна кажуць: “Свет цесны”. Я не адзін год працаваў побач з нейкім Ігарам Іванавічам Ісачанкам. Пазней ён змяніў прафесію, абараніў дысертацыю па эканоміцы, стаўся намеснікам выдавецтва “Эканоміка”. Але знаёмства мы працягвалі. Аднойчы, ужо пасля многіх гадоў знаёмства, я паведаміў яму, што ў Гомелі ёсць вуліца і кінатэатр імя Ісачэнкі. Ён прызнаўся, што гэты герой-падпольшчык — ягоная радня. Але тэму “не развіваў”. З нейкай нагоды я пазней памянуў пра тое пры маці-нябожчыцы. А яна кажа: “Гэта ж мае аднавяскоўцы”. Карацей, высветлілася, што з Ісачанкам-бацькам яна вычылася разам у школцы.

Хлопчык ён быў вельмі спрытны, яму даручана было чытаць малітву перад пачаткам заняткаў. Потым яго зрабілі ізбачом, камсоргам, сакратаром сельсавета, потым паслалі на вучобу ў Маскву, ён знік і з’явіўся праз шмат гадоў намеснікам Дзяржліту ўсяго СССР, у рангу генерала КДБ (без пагонаў). Пасля Хрушчова яго звольнілі за дазвол друку нейкіх твораў, ці то Салжаніцына, ці то Дудзінцава, хаця, я думаю, што гэткія пытанні вырашаліся вышэй за Дзяржліт, проста шукалі “крайняга”. Ужо на пенсіі ён прыязджаў на радзіму і пытаўся ў вёсцы: “Як там Лена (мая матка), вы не чулі?” Тыя вельмі здзіўляліся: “Жывёце там побач у Маскве, а ў нас пытаецеся”. Ну, што зробіш, шляхі ў нас розныя.

Яшчэ на тэму неспадзяванак. Шмат гадоў працаваў разам са мною на прадпрыемстве Валадковіч Лявон (Леан) Мартынавіч. Ягоны службовы абавязак — рэдагаванне розных тэкстаў (тэхнічных апісанняў, інструкцый і г. д.). Даводзілася з ім працаваць, але неслужбовых размоў мы не мелі. Калі ў 1993 г. я працаваў у Чарнобыльскай зоне, дык убачыў у Хойніках вуліцу Валадковіча, пра што сказаў яму, калі вярнуўся на ранейшую працу. Ён вельмі ўсхваляваўся, ледзь не заплакаў. Высветлілася, што ён родам з Хойнікаў, часта прыгадвае гэтае месца, ягоныя ваколіцы, распытваў мяне пра яго. А той Валадковіч — ягоны родны дзядзька, які пад час рэвалюцыі 1905 г. ці пазней узняў сялянскі бунт і забіў паліцэйскага, за што быў пакараны смерцю ў Віцебску. Расказаў пра себя, як яго спачатку ахрысцілі ў католіка, а потым у праваслаўнага і г. д. Чалавек гэты нейкай нявызначанай нацыянальнасці, ён сам не вызначыўся, але Беларусь для яго непаўторны і незабыўны край, што, паміж іншым, уласціва кожнаму ўраджэнцу Беларусі.

Але ж пра месяцаход. Той месяцаход не быў аўтаматам. У Еўпаторыі за пультамі сядзелі аператары, якія няспынна сачылі за ягоным станам і рухамі. Скажам, калі трэба было рухацца, спачатку атрымлівалі панараму, ацэньвалі мясцовасць і вырашалі, куды і колькі ехаць. Таму ён рухаўся вельмі павольна. Наш меў лазарнае “вока” з камп’ютэрам і быў здольны рухацца незалежна. Свой стан ён кантраляваў сам, на Зямлю перадаваў адно трывожны сігнал пры небяспецы. Толькі мы пачалі рабіць першыя дзеючыя макеты — вядома, не адны, а з удзелам спецыялізаваных устаноў, — як здарылася Чарнобыльская бяда. Гэтыя макеты спрабавалі там скарыстаць, але яны былі занадта кволыя і хутка папсаваліся. Пасля таго праца ў гэтым напрамку згарнулася зусім, абсталяванне спісалі, вынаходніцтвы па магчымасці скарысталі ў іншых галінах (напрыклад, домікі для экспедыцый), людзі разышліся, з дзейнічаючых вядучых спецыялістаў застаўся я адзін. І калі прыгадваюць пра гэтую былую задуму, звяртаюцца да мяне. А прыгадваюць, дарэчы, ЗША і Японія, асабліва апошняя. Тут справа у тым, што на Месяцы шмат ізатопа-3 гелія, чаго нямашака на Зямлі пад атмасферным “кажухом”. Гэты ізатоп ёсць самае выгаднае паліва для тэрмаядзерных рэактараў. Гэткім выгадным, што яго рэнтабельна здабываць на Месяцы і прывозіць на Зямлю — так мала яго трэба. Тады знікнуць ГЭСы, ГРЭСы, не трэба будзе нафты і вугалю. Пэўна, гутарка не пра заўтра, няма яшчэ і “тэрмаяду”, але час ад часу пытанне ўзнікае. За мяжой ведаюць, што тут мы былі наперадзе “пла-

неты ўсёй”, і прапануюць грошы, па мільярду долараў кожная з памянутых дзяржаў, каб мы ўзнавілі працу, але па агульнаму стану гэта немагчыма. Праца не аднаўляецца, а мяне далучылі да даследаванняў па вырабу новых матэрыялаў у бязважкасці. Мы стварылі і ўжылі абсталяванне для вырабу сплаваў, лекаў на арбіце. Калі знікла сваё фінансаванне, працавалі па заказах немцаў, французаў і іншых. Але памеры гэтых заказаў занадта сціплыя, каб разгарнуцца на ўсю моц, бо галоўныя выдаткі злучаны з запускам спадарожнікаў, а гэта яны не аплочваюць, адно сваю долю. Праца пакрысе марнее. У выніку я працую цяпер па аднаўленню стартаў самай моцнай у Расіі і, бадай, у свеце ракеты “Пратон”.

Гэтыя старты былі пабудаваны 20–30 гадоў таму, абсталяванне састарэла (параўнайце з халадзільнікам ці аўтамашынай), а з іх павінны запусціць модулі міжнароднай станцыі “Альфа” і шматлікія “камерцыйныя” апараты (запуск за грошы іншаземцаў). Пры сучаснай галечы расійскай касманаўтыкі гэта самае бойкае месца.

Усё ж плоцяць замала, нават пенсія не ратуе, таму даводзіцца шукаць дадатковыя заробкі. У прыватнасці, уладкаваўся перакладчыкам на беларускую мову крымінальных спраў. Згодна з сучасным расійскім заканадаўствам злачынцы-грамадзяне іншых краін атрымліваюць пераклад сваіх спраў. Але што дзіўна — калі, скажам, украінцы адмаўляюцца ад перакладчыка, дык яго не запрашаюць. А беларусам — абавязкова даюць, гэта загад федэральных улад. Мне падаецца, што расійскія ўлады заклапочаны іміджам беларусаў больш за іх саміх. І сапраўды — навошта расійцам яшчэ 10 мільёнаў “новых рускіх”, калі 25 сваіх за мяжой нявядома куды падзець. Дый і гонару мала ў тых сябрах, што гатовыя паўзці на каленьках да Крамля. Лепей дастойны саюзнік, які мае сваю годнасць і прытым гатовы шчыра сябраваць.

Апошняе пра работу. Кіраўніком маім быў акадэмік Бармін Уладзімір Паўлавіч. Ён ужо памёр гадоў 5 таму, цяпер кіруе ягоны сын. Сустракацца даводзілася і з іншымі акадэмікамі (напрыклад, з Веліхавым), касманаўтамі, але мяркую, што гэта той выпадак, калі я іх ведаю, а яны мяне не. Прынамсі, не рызыкую выдаваць сябе блізкім сябрам і нешта апавядаць. Хіба тое-сёе з цікавых расказаў акадэміка Барміна з былога. Напрыклад, гэткае. Калі пачыналі распрацоўку першай ракеты, былі прызначаны 7 галоўных канструктараў па напрамках. Каралёў быў “першы сярод роўных”, як ён пра сябе казаў. У той час яны яшчэ былі, па сутнасці, незнаёмыя адзін з адным. Сабраў іх Берыя, які курыраваў усю абаронную прамысловасць. “Перад тым, як пачаць нараду, — сказаў ён, — я хачу даць вам абавязковы загад: кожны з вас павінен тэрмінова знайсці сабе роўнага намесніка. Мала што можа з вамі здарыцца: захварэеце…” (Паўза). Тут імпэтны Каралёў штурхнуў пад сталом каленам Глушко. Берыя заўважыў рух і працягнуў строга: “Ці памыліцеся. Ты сядзеў?” — звярнуўся ён да Каралёва. “Так”, — адказаў той. — “Колькі?” — “Сем гадоў”. — “А ты?” (Да Глушко)” — “Таксама”. — “Гэта добра”. Што ён жадаў яшчэ сказаць, невядома, бо зазваніў тэлефон урадавай сувязі. “Слухаю, таварыш Сталін!” — Берыя ўскочыў, твар яго зрабіўся ліслівым. Увогуле Берыя меў выгляд вулічнага хулігана: у вачах і сло-

вах — агрэсіўная напорыстасць, пыхлівы выклік. З таго гатунку людзей, для якіх жарт і смех або абраза, або блюзнерства, толькі не радасць. Ён паслухаў Сталіна і сказаў: “Зараз прыбуду”. Берыя сабраў са стала паперкі і сказаў: “Нараду прыпыняем, мяне выклікае таварыш Сталін. Але нагадваю: каб кожны з вас знайшоў раўнацэнную замену”. Магчыма, пад уплывам гэтай гутаркі ніводзін з іх не цярпеў пры сябе “раўнаценнага” супрацоўніка: ці адпраўляў на самастойную працу, як Каралёў Янгеля (у Днепрапятроўск), Бабакіна (у НВА імя Лавачкіна), Казлова (у Самару), ці ў міністэрста на павышэнне, як Барміна. Калі яны адышлі адзін за адным у іншы свет, справы значна пагоршыліся.

Але ўсё гэта не так цікава. Лепей прыгадаю пра Алеся Адамовіча. Калі я быў старшынёй беларускага таварыства, у нашым асяродку ўзніклі развагі, што для яго ўзмацнення ў Маскве някепска было б, каб яго ачольваў шырока вядомы дзеяч. Надумалі Адамовіча. Я пайшоў да яго. Ён мне адказаў, што не супраць спрыяць справе, але занадта заклапочаны грамадскай дзейнасцю, таму згодны быць адно ганаровым старшынёй для выкарыстання ягонага імя. Згодны папрасіць дзесь, напрыклад, памяшканне ці “прабіць” якое выданне. Абяцанне ён выканаў, у прыватнасці, дапамог прафесару Шыраеву, сябру таварыства, выдаць кнігу-атлас “Русь Белая, Чорная, Літва”. Некалькі разоў прыходзіў на нашыя імпрэзы, што прываблівала дадатковых слухачоў (гледачоў). Прыгадваецца адна размова, калі ён сказаў, што не трэба занадта ідэалізаваць беларусаў, бо ў іхняй свядомасці нямала адмоўнага. Ён прыгадаў, як яны з Брылём і Калеснікам збіралі матэрыял для “Вогненнай вёскі” ў нейкім палескім селішчы. Людзі параілі ім звярнуцца да адной бабулі, у якой карнікі знішчылі дзетак, муж загінуў на фронце. Нікога ў яе няма, бядуе, бо моцы ўжо няма, калгасная пенсія 12 рублёў. Таму было б добра, каб яны дапамаглі гэтай бабцы. Яны параіліся і даручылі гэты клопат Калесніку, які быў “уваходжы” ў ЦК. Калеснік дабіўся персанальнай пенсіі ў 70 рублёў, пра што яны паведамілі людзям, калі прыехалі ў тую вёску зноў. І тут тыя самыя людзі абурана закрычалі: “Як?! Гэтай бабцы?! А іншыя недастойныя?! А вы ведаеце, што ў яе стрыечны брат быў паліцаем? А пляменнік…” і г. д.

Трэба як-небудзь сесці дый прыгадаць усё. І пра Адамовіча, і пра Шушкевіча з Ігнатовічам. Пра ўсё. Тады напішу больш падрабязна.

А зараз яшчэ раз дзякую за ліст, ён для мяне нібы ганаровая грамата. Бо мая адзіная заслуга хіба ў тым, што не забыўся на чужыне пра ганаровае імя беларуса і спрыяў таму, каб і іншыя не забываліся. Ды і тое, зрэшты, не мая заслуга, а маіх бацькоў і родных. Дарэчы, калісь нашае прозвішча было Драянок, гэта пры дзеду майго дзеда, а мо пры прадзедзе, ужо добра не памятаю дзедава апавяданне. Запісалі нас па-руску Драенков. Дык мяне часта лічаць немцам па бацьку. Дзед шмат чаго памятаў з даўніны і ведаў ледзь не дзесяць каленаў роду, а мне, юнаку, гэта было тады мала цікава, а цяпер ўжо не даведацца, няма старых. Добра яшчэ, што бабчына прозвішча Арэхва не папраўляць на высакародна-рускае ці нямецкае.

Са шчырай павагай і зычэннем усялякіх поспехаў.

***Алесь Драянкоў*** *(Масква)*

## ЩАВИНСКАЯ Л. Л. ЛИТЕРАТУРНАЯ КУЛЬТУРА БЕЛОРУСОВ ПОДЛЯШЬЯ XV–XIX вв. МИНСК, 1998. 175 с.




Манаграфія Л. Шчавінскай "Літаратурная культура беларусаў Падляшша XV–XIX стст." (Мінск, 1998) сімптаматычная для таго, цяпер ужо ясна абазначанага (пры ўсёй сваёй унутранай дыферэнцыяцыі), накірунку ў славістыцы, які імкнецца да спасціжэння гісторыі асобных літаратур і культур у святле агульных заканамернасцей Europa Christiana (1). Яе гістарычнае раздзяленне на Pax Orthodoxa і Pax Latina зусім не было тоесным узаемаізаляцыі (2). І менавіта гэта — яшчэ зусім мала даследаваная сфера ўзаемасувязей двух культурных колаў агульнаеўрапейскай цывілізацыі абумовіла ў пасля-сярэдневяковыя часы не толькі паступовае пашырэнне ўзаеманакладання, а тым самым і сціранне канфесійна прадвызначаных межаў культуры візантызму і лацінства, але і культуратворчы сінтэз. Такі характэрны для праваслаўнаславянскага свету эпохі Барока, што азначала пачатак новай — агульнаеўрапейскай — культуры ўжо як адзінага працэсу, ён тым самым азначаў канец адасабленння гісторыі Pax Orthodoxa і Pax Latina, народжаных Сярэдневякоўем і яго выяўленнем.

Указаны працэс адыграў вялікую ролю не толькі ў лёсах славянскага свету, які з-за заканамернасцей агульнаеўрапейскай гісторыі дыферэнцыраваўся ў межах двух колаў еўрапейскай культуры. Асаблівыя і вельмі спецыфічныя (бо абцяжараныя лакальнымі фактарамі) яго праявы абумовілі своеасаблівасць фарміравання культур тых этнасаў, якія з-за геапалітычных абставін апынуліся ў памежных прасторах двух колаў хрысціянскай эйкумены. Такімі, у прыватнасці, былі беларусы і населены імі рэгіён Падляшша — заходняя частка Вялікага Княства Літоўскага, дзе на працягу стагоддзяў усходнеславянска-польскія ўзаемадзеянні як лакальныя складальнікі ўзаемасувязей Усходу і Захаду Еўропы выяўляліся асабліва інтэнсіўна.

Праца Л. Шчавінскай – першая спроба даследавання беларускай культуры XV–XIX стст., якая ажыццяўлялася з дапамогай даследчай "оптыкі" і выкары-

станнем навуковага “інструментарыя”, што былі выпрацаваны ў рамках новай славістычнай школы і характарызуюць яе методыкі. Дзякуючы гэтаму распачатае аўтарам першае манаграфічнае вывучэнне збору рукапісаў і кніг Дабравешчанскага манастыра ў Супраслі, яго шматвяковай выдавецкай і асветнай дзейнасці адначасова набывае культурна-гістарычнае вымярэнне: “матэрыяльная” канкрэтыка тэкстаў — іх разнародны склад, разнастайнасць іх канфесіянальнага і моўнага аблiччаў, практычнага прызначэння і прастора-часавага функцыянавання, — усё гэта асэнсоўваецца аўтарам у святле тых заканамернасцей адпаведна Pax Orthodoxa і Pax Latina, якія абумовілі і само з’яўленне тут гэтых тэкстаў, і лакальныя адносіны да іх, і лакальны характар іх успрыняцця і выкарыстання. Тым самым у манаграфіі прысутнічаюць тры ўзроўні з’яваў і заканамернасцей, якія разглядаюцца сістэмна — як узаемазвязанае, узаемаабумоўленае і ўзаемадзейнае цэлае: 1) адкрываецца, класіфікуецца і апісваецца канкрэтны матэрыял; 2) гэты матэрыял асэнсоўваецца ў святле спецыфікі лакальнага праламлення ў тым гістарычна зменлівым духоўным жыцці, якое было ўласціва беларускай культурнай прасторы часоў Старажытнай Русі (праваслаўная, этнаканфесійная традыцыя), Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі; 3) апісанне і аналіз першага і другога ўзроўняў з’яўляюцца асновай для агульных вывадаў, якія характарызуюць стрыжневую аснову беларускай культуры.

Такая свайго роду “іманентная паэтыка” даследчага тэкста матэрыялізуецца ў трох раздзелах. Кароткія “Уводзіны” і “Заключэнне” выконваюць ролю адпаведна інфарматыўную (задачы, якія ставіць перад сабой аўтар, і шлях, абраны для іх рашэння) і рэзюміруючую.

У першай главе — “Супрасль — адзін з буйнейшых цэнтраў узаемадзеяння Slavia Orthodoxa і Slavia Romana” (3) — згодна з самой назвай загалоўка разглядаецца месца і значэнне Падляшша на працягу тысячагадовага судакранання ўсходняга і заходняга хрысціянства, асвятляецца праваслаўная, а затым уніяцкая складальныя Супрасльскага манастыра, а ў гэтай сувязі — лацінізацыя кірыла-мяфодзіеўскай кніжнай традыцыі, характар узаемаспалучэння сваёй, усходнехрысціянскай традыцыі і заходнехрысціянскай навізны, якая была звязана з прыняццем уніі, роля гэтых двух пачаткаў і іх значэнне. Фіксуючы рост бібліятэчнага фонду за кошт заходняй літаратуры, адзначаючы факты далучэння да лацінскай адукаванасці, Л. Шчавінская канстатуе захаванне тут і пасля 1610-х гг. (калі Брэсцкая унія была прынята Супрасльскім манастыром) яшчэ на працягу стагоддзя (да Замойскага сабора 1720 г.) сваёй праваслаўнай традыцыі, што адбілася як у выкарыстанні тых жа багаслужбовых кніг, так і ў захаванні кірылічнага пісьма, таксама як і старабеларускай мовы ў манастырскім справаводстве. Пасля 1720 г. працэс лацінізацыі ўзрастае. Пры гэтым захоўваецца роля манастыра як аднаго з буйнейшых кніжных цэнтраў усходняга славянства, які к канцу XVII ст. становіцца рэзідэнцыяй кіеўскіх уніяцкіх мітрапалітаў і протаархімандрытаў (кіраўнікоў) базыльянскага ордэна. Кнігі, што тут выдаюцца, як, напрыклад, першы друкаваны уніяцкі “Службоўнік” (1695), паказваюць “не

толькі асноўныя моманты лацінізацыі абрадавага боку уніяцкай царквы, але і адначасова асноўную сувязь з кірыла-мяфодзіеўскай традыцыяй” (с.13). Пра ўзаемаперапляценне візантыйскага і лацінскага пачаткаў сведчыць і шэраг іншых тэктаў з канца XVII–XVIII стст., а таксама творы выяўленчага мастацтва, таксама як і практыкуемыя мовы (паралельна з царкоўнаславянскай і старабеларускай — польская, лацінская, італьянская).

Манастырская друкарня — буйнейшая на беларускіх землях — на працягу XVIII ст. выдала больш за сто кніг на царкоўнаславянскай, старабеларускай і рускай мовах. Прычым частка выданняў прызначалася для старавераў. Тым самым захоўваючы і развіваючы цяпер ужо рознаканфесіянальную ўсходнеславянскую культуру на традыцыйнай агульнай (царкоўнаславянская), родных (старабеларуская, руская) мовах, а таксама на універсальнай для Захаду лацінскай, на дзяржаўнай мове (польская) і мове літоўскіх землякоў, Супрасльская друкарня ў той жа час выдавала польскія пераклады Вальтэра, Карнеля, Расіна, Свіфта і іншых носьбітаў заходнееўрапейскай сучаснасці. Разам з букварамі і масавай канфесіянальна-выкладчыцкай, прызначанай для ўсіх слаёў насельніцтва літаратурай, гэта спрыяла развіццю адукацыі і культуры на беларускіх землях у агульнаеўрапейскім духу “веку розуму”.

Кніга як факт слоўнага мастацтва адначасова з’яўляецца сведчаннем культуры, а тым самым і “сацыякультурным вызначальнікам” (4), і “сацыяльна-гуманітарным стандартам навуковых ведаў” (5), дакументуе кола інтарэсаў, характар і ўзровень актуальных патрабаванняў і духоўных памкненняў азначанага этнасу, грамадства, асяродку ў азначаны час. Такога кшталту навуковы падыход вызначае шырыню даследчыцкага гарызонту 2 главы (“Бібліятэка Супрасльскага манастыра і яе кніжныя зборы”).

Аналіз інвентароў і найбольш значных помнікаў XV–XIX стст. служыць асновай для высноў пра характар узаемасуіснавання і ўзаемадзеяння Pax Orthodoxa і Pax Latina на беларускіх землях у асобныя гістарычныя эпохі зменнай — у сувязі з канкрэтнымі гістарычнымі абставінамі — дынамікі сінтэзу “свайго” і “чужога”, а ў гэтай сувязі — узрастання працэсу акцыдэнталізацыі лакальнай культуры ў яе лацінскіх і польскамоўных абліччах. Што ж тычыцца пачатковага пункта такой накіраванасці змяненняў — першапачатковай праваслаўнай асновы кніжнасці Супрасльскага манастыра, — дык у рэнесансным для Вялікага Княства Літоўскага XVI ст. “узровень апісання кніг у інвентары супрасльскага архімандрыта ніколькі не саступае аналагічным працам у буйнейшых бібліятэках тагачаснага хрысціянскага свету, у тым ліку і на Захадзе, не выключаючы і паказальнае ва ўсіх адносінах Ватыканскае кнігасховішча” (с. 37–38).

Трэба адзначыць, што на працягу XVII ст. кірыла-мяфодзіеўская традыцыя, губляючы (у выніку прыняцця уніі) сваю выключнасць, уступае ў фазу *беспера-шкоднага* суіснавання і ўзаемадзеяння з лацінствам. Гэта было абумоўлена самімі прынцыпамі уніі. Адсюль канстатацыя аўтара: “…фармальна з’яўляючыся уніяцкім, манастыр яшчэ цэлае стагоддзе захоўваў усе знешнія прыкметы праваслаўя” (с. 12–13) — патрабуе карэкціроўкі: 1) базыльянскі манастыр у Суп-

раслі быў уніяцкім не “фармальна”, а ў сапраўднасці (што, дарэчы, прачытваецца і ў кнізе Л. Шчавінскай); 2) “прыкметы праваслаўя” былі яго традыцыяй, якая прадаўжаецца і сучаснасцю (што таксама выцякае з разгледжаных аўтарам рукапісных і кніжных фондаў манастыра). І гэтыя прыкметы былі натуральнымі, арганічнымі, “унутранымі” для уніі, якая, прызнаючы верхавенства Рыма, зберагала сваю традыцыйную абраднасць. Тым самым, “знешнімі” яны былі для праваслаўнай царквы як *інстытута* з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі *інстытуцыянальнага* плана. Гэтыя прыкметы вельмі далікатныя і да гэтага часу яны выклікаюць вострыя дыскусіі, таму што ўзаемазвязаныя праблемы царкоўнай, дзяржаўна-палітычнай і нацыянальнай гісторыі зусім натуральна (і па-ранейшаму) ускладнены ідэалагізаваным мысленнем. Яшчэ давядзецца спакойна, адкінуўшы звыклыя стэрэатыпы, з перспектывы, якую дае мінулы час і вопыт сучаснай навукі, усвядоміць усю шматпланавасць фенамена уніі, а ў сувязі з гэтым — дыферэнцыравана разгледзець яго тэалагічныя, інстытуцыянальныя, дзяржаўна-палітычныя і этнасацыяльныя складальныя. Да іх ліку адносіцца і культура. Яна выконвала спецыфічную ролю, з’яўляючыся як адной з важнейшых перадумоў прыняцця уніі часткай праваслаўнага свету, так і той сферай, дзе пасля ужо з асаблівай інтэнсіўнасцю ўзнікалі і нарасталі чарговыя “сустрэчныя цячэнні” (А. Весялоўскі) і як вынік іх узаемазліцця – сінтэз “свайго” і “чужога” ў духоўным жыцці, мастацкай творчасці, нарэшце, у самім менталітэце вызначанай часткі беларускага і ўкраінскага этнасаў, што праяўляецца і па сённяшні дзень. Сабраныя Л. Шчавінскай матэрыялы і праведзены ёю аналіз канкрэтных тэкстаў — відавочнае таму пацвярджэнне.

“Важнейшым сведчаннем пераходнасці ад Усходу да Захаду з’яўляецца, напэўна, “Службоўнік” а. Самуйла Піліхоўскага” , — адзначае аўтар (с. 52). Гэтая кніга, выдадзеная ў Супраслі ў 1695 г., — “першы ўсходнеславянскі уніяцкі “Службоўнік”, які меў і мае ў гісторыі уніяцкай царквы вялізнае значэнне” (с. 53). Згодна з вопісам 1764 г. Супрасльская бібліятэка налічвала звыш паўтары тысячы кніг. “Па разнастайнасці і багаццю іх рэпертуара яна пераўзыходзіла многія вядомыя кніжныя зборы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы” (с. 57). І тут пры азнаямленні з канкрэтнымі выкладаннямі і дэталёвымі назіраннямі Л. Шчавінскай просяцца наступныя вывады агульнага характару: 1) колькасць і склад кніг Супрасльскай бібліятэкі (згодна з вопісам 1764 г.) на лацінскай, царкоўнаславянскай, старабеларускай, стараўкраінскай, польскай, нямецкай, чэшскай, французскай, італьянскай, грэчаскай і іншых мовах сведчыць як пра маштабнасць, так і ўнутраную абмежаванасць культурнага працэсу; 2) сам гэты працэс канфесійна звязаны з уніяцтвам, а “экзістэнцыяльна” — з гістарычна зменлівай прававой, грамадска-палітычнай і агульнакультурнай сітуацыяй Польска-Літоўскай дзяржавы часоў Рэнесансу, Барока, Асветніцтва.

У прамой залежнасці ад усіх гэтых фактараў з усімі магчымымі вынікамі для этнічна беларускай прасторы было і адзначанае аўтарам узрастанне кантактаў з рускімі стараверамі і “з рускім культурным асяродкам, прычым без нейкіх бачных антыправаслаўных мэтаў” (с. 58). Пасля развалу Рэчы Паспалітай гэтыя ж,

але палярна зменены фактары (праваслаўе ў канфесіі і расійская дзяржаўна-прававая сістэма ў экзістэнцыі) прадвызначылі далейшую гісторыю Супрасльскага манастыра, асветленую аўтарам у падраздзелах "Напярэдадні 1839 г." і "Узнаўленне праваслаўнага манастыра".

Трэцяя глава — "Квантытатыўная мадэль літаратурнай прасторы польска-ўсходнеславянскага памежжа XV–XIX стст." — выразна "матэрыялізуе" папярэднія назіранні і высновы дзякуючы аналізу рэпертуарнага складу кніг манастырскай бібліятэкі і табліцам, звязаным з гэтым разглядам. Усё гэта заснавана на матэрыялах вопісаў XV–XIX стст. Канчатковы вывад: "Матэрыялы вопісу 1836 г. выяўляюць апагей працэсу ўзаемапранікнення, няпростага ўзаемадзеяння заходнеславянскага і ўсходнеславянскага хрысціянскіх светаў, шырэй – культуры Захаду і Усходу Еўропы ў XV–XIX стст. … Сарцавінай кніжных збораў Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра, які выконваў у рэшце рэшт вызначальную ролю, заўсёды была "Бібліятэка славянская" (с. 96–97).

"Бенедыктыянская" праца Л. Шчавінскай адносіцца да ліку тых рэдкіх даследаванняў, якія ў сілу сваёй фундаментальнай распрацоўкі не закрываюць праблему, а адкрываюць цэлы спектр новых, да гэтага часу закрытых складальнікаў, высвечваючы далейшыя — і вельмі перспектыўныя — тэмы для гісторыкаў, культуролагаў, літаратуразнаўцаў і лінгвістаў. (Да ліку гэтых тэм найперш трэба аднесці *культурастваральную* ролю уніі (6), яе ўдзельную вагу ў лакальным сінтэзе візантызму і лацінства, нарэшце, яе значэнне як адной з складальнікаў у працэсе фарміравання нацыянальных культур і нацыянальных менталітэтаў часткі беларускага і ўкраінскага этнасаў.) Разам з непасрэдна пастаўленымі і паспяхова вырашанымі аўтарам мэтамі даследавання адкрыта перспектыва, якая спадарожнічае і імпліцытна прысутнічае ў працы — адначасова і сведчанне плённасці абранага Л. Шчавінскай падыходу, і пацвярджэнне эфектыўнасці той методыкі, якая ёю выкарыстоўваецца.

Асновай кнігі з'яўляецца больш шырокі тэкст дысертацыі. На яе абароне ў Маскве я выказаў меркаванне, што па сваёй сутнасці і аб'ёму ўкладу ў навуку яна задавальняе патрабаванням, якія прад'яўляюцца да прац, што вылучаюцца на атрыманне ступені доктара філалагічных навук. Пярэчанняў не было, але была захаваная з савецкіх часоў цырымонія запланаванай абароны кандыдацкай дысертацыі. Цяпер, завяршаючы кароткі — такія магчымасці рэцэнзента — разгляд кнігі Л. Шчавінскай, я з унутраным задавальненнем магу канстатаваць, што аўтар зноў даў мне магчымасць пацвердзіць сваю думку, выказаную раней на Вучоным савеце Інстытута славяназнаўства РАН, і дапоўніць яе разважаннем пра тое, што гэта выданне — важнае сведчанне дынамічнага развіцця беларусістыкі ў постсавецкай Расіі.

***Аляксандр Ліпатаў**, доктар філалагічных навук (Масква)*
*Пераклад з рускай мовы **Алы Такіндан**к*

(1) Аб уласцівасцях гэтаму накірунку навуковых падыходах гл.: Липатов А. В. Древнеславянские письменности и общеевропейский литературный процесс: К проблеме

исследования литератур как системы // Барокко в славянских культурах. М., 1982; Ён жа. Общие закономерности славянских литератур и концепция Р. Пиккио // Известия АН СССР. Сер. лит. и яз. 1990. № 4; Ён жа. Литературный процесс в оптике исторической поэтики: (Новое направление в славистике и концепция Д. Дюришина) // Специфика литературных отношений. М., 1994.

(2) У адносінах славянскага арэала гэта адлюстравана ў працах апошняга часу: Славянские литературы в процессе становления и развития. М., 1987; Толстой Н. И. Slavia Orthodoxa и Slavia Latina: Общее и различное в литературно-языковой ситуации // Ricerche Slavistiche. Vol. XLII. 1995; Живов В. М. Особенности рецепции византийской культуры в Древней Руси // Тамсама; Флоря Б. Н. Отношения государства и церкви у восточных и западных славян. М., 1992; Ён жа. У истоков конфессионального раскола славянского мира: (Древняя Русь и ее западные соседи в XIII в.) // Славянский альманах. М., 1997; Липатов А. В. История европейской литературы и славянские литературные общности: (Диалектика универсального и национального) // Славяноведение. 1997. № 1; Уводныя главы ў "Историю литератур западных и южных славян". М., 1997. Т. 1.

(3) Прапанаванае Р. Пікіо вызначэнне, якое выкарыстоўвае і Л. Шчавінская, "Slavia Romana" не ўяўляецца адэкватным у адносінах да той часткі Славіі, якая пасля раздзялення Царквы апынулася ў рымска-каталіцкай сферы. Гэтая апошняя — Pax Latina — на працягу Сярэдневякоўя ўсё больш дыферэнцыравалася на германскую і раманскую складальныя, а ў іх межах праяўлялася і дыферэнцыяцыя Slavia Latina на Slavia Romana і Slavia Germana (параўн.: Липатов А. В. Европейский литературный процесс и славянские литературные общности // Славянские литературы: Культура и фольклор славянских народов. XII Международный съезд славистов. Доклады российской делегации. М., 1998). Таму ўведзеныя ў наш навуковы ўжытак Н. І. Талстым Pax Slavia Latina ці Slavia Latina ўяўляюцца найлепшымі.

(4) Мыльников А. С. Книга как социокультурный определитель // Книга в пространстве культуры. М., 1995. С. 36.

(5) Бородкин Л. И. Математические модели исторических процессов. М., 1996. С. 12.

(6) Канфесіянальны і дзяржаўна-палітычны аспекты уніі, несумненна, узаемазвязаныя з аспектам культуры, тым не менш уяўляюць сабой асаблівыя вобласці грамадска-гістарычнай рэальнасці і самі па сабе дапускаюць асаблівыя – менавіта ім характэрныя крытэрыі і менавіта ім адпаведныя даследчыя падыходы і аналітычныя методыкі.

## SENOJI LIETUVOS LITERATŪRA. Kn. 1–4. VILNIUS, 1992–1996.

Выйшаў у свет чацвёрты том серыйнага выдання літоўскіх гуманітарыяў "Старая літоўская літаратура". У прадмове да першага тома гаворыцца, што "ў апошнія гады ў Літве фарміруецца больш глыбокае разуменне нацыянальнай культуры, усё больш адчувальнай становіцца важнасць даследавання старой літаратуры. Неабходна не толькі папоўніць дасюль зіяючы фактаграфічны прагал, але і па-новаму паглядзець на сам працэс старой літаратуры ў Літве, глыбей асэнсаваць яго заканамернасць, спецыфіку, самабытнасць і значэнне асобы творцаў і пісьмовых помнікаў" (1). Для вырашэння гэтай агульнай задачы літаратуразнаўцаў і гісторыкаў культуры і адначасова для выхавання новага пакалення даследчыкаў літаратурнай спадчыны мінулага пры Інстытуце літоўскай літара-

туры і фальклору ў 1990 г. быў створаны семінар старой літаратуры. У яго ініцыятыўную групу ўвайшлі знакамітыя літоўскія літаратуразнаўцы Л. Гінейціс, Е. Гірдзіяўскас, А. Явайшас, Д. Куоліс, І. Лукшайтэ, А. Самулёніс, Я. Ульчынайтэ, В. Ванагас, С. Жукас. У занятках семінара прымаюць удзел супрацоўнікі інстытутаў гісторыі Літвы і літоўскай мовы, а таксама выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў. Даклады, прачытаныя на занятках семінара, а таксама працы, якія выконваюцца ў Інстытуце літаратуры і фальклору, і сталі падрыхтаваным агульнымі намаганнямі фундаментам гэтага выдання з працягам.

Асноўны аб'ект выдання — старая літоўская літаратура як на літоўскай мове, так і на іншых. Не будзе адмежавання і ад літаратурных з'яў XIX ст., асабліва тых, якія так ці інакш звязаны з літаратурнымі традыцыямі ранейшых стагоддзяў. У выданні плануецца змяшчаць даследаванні, артыкулы, публікацыі старажытных тэкстаў. Кожную кнігу мяркуецца арыентаваць на якую-небудзь больш агульную праблему старой літаратуры, хаця асобныя артыкулы могуць быць напрамую і не звязаны з ёй.




У першай кнізе, "Жанры старой літаратуры" (1992), у якасці тэарэтычнага ўступу да ўсяго выдання даецца разгляд жанраў літоўскай літаратуры і наогул пісьменства XVI–XVIII стст., зроблена спроба вызначыць, між іншым, іх (павучанняў, лацінскіх "мудрагелістых вершаў" і інш.) творчыя прынцыпы, пашырэнне і спецыфіку ў Літве, змену асобных перыядаў у гісторыі літоўскай культуры. Адначасова выяўляецца і тагачаснае разуменне літаратуры, якое выразна адрозніваецца ад поглядаў на літаратуру, якія ўмацаваліся ў пазнейшыя стагоддзі. Тут змешчаны артыкулы Д. Пачутэ "Паходжанне і характар прускіх літоўскіх рэлігійных песень XVI–XVII стст.", даецца спіс гэты песень; Э. Пацяюнене "Мудрагелістая паэзія XV–XVII стст. у літоўскіх выданнях"; А. Цярэшкінаса "Праблемы стылю і жанру ў павучаннях М. Альшаўскаса і К. Лукаўскаса"; Л. Жукене "Спецыфіка напісання гісторыі літаратуры ў XVIII ст."; Я. Ульчынайтэ "Рыторыка барока: нарматыйнасць і наватарства". У радзеле "Публікацыі" змешчана некалькі твораў вельмі рэдкіх па жанру (трэнаў, макаранічных вершаў) як дадатак да артыкулаў Р. Юргяленайтэ "Традыцыя трэнаў у ВКЛ у канцы XVI ст." і Э. Пацяюнене "Макаранічны твор П. Раізія "Аб паездцы праз Літву".

Другі том — "Рэляцыя Мікалая Казіміра Шэмета" — прысвечаны ў асноўным вывучэнню і публікацыі унікальнага твора XVII ст., паэмы Мікалая Казіміра Шэмета, вендэнскага падкаморыя, "Рэляцыя пра адыход Жэмайціі пад шведскую апеку і выхад з-пад яе", якая з'яўляецца па форме і зместу вершава-

нымі мемуарамі. Публікацыі паэмы папярэднічаюць артыкулы А. Цілы “Рэляцыя” М.-К. Шэмета — крыніца гістарычных рэалій” і Я. Ульчынайтэ “Рэляцыя пра адыход Жэмайціі пад шведскую апеку і выхад з-пад яе: Літаратурныя аспекты паэмы”. Тэкст паэмы змешчаны на мове арыгінала (польскай) і ў перакладзе на літоўскую мову (падрыхтоўка Я. Ульчынайтэ). У раздзеле “Рэцэнзіі” змешчаны водгук А. Явайшаса на другое выданне працы Л. Генейсціса “Крысціёнас Данелайціс і яго эпоха”.

У трэцяй кнізе — “Зрабіўшы крок ў XIX ст.” — змешчаны артыкул І. Скурдзянене “Сувязь грамадскай самасвядомасці і паганскай культуры ў пачатку XIX ст.”, дзе закранаецца і творчасць вядомых нам паэтаў А. Міцкевіча, Я. Чачота, У. Сыракомлі і інш.; А. Цярэшкінаса “Юргіс Амбразеюс Пабрэжа: “Пры дарагой святыні”; Ё. Лябёнкі “Папярэднікі рамантычнай літаратуры ў Літве”; Р. Банцкутэ “Рукапісы гістарыяграфічных прац С. Даўкантаса”, у ліку якіх разглядаецца і яго “Жэмайційская гісторыя”; Ё. Шлякіса “Рэакцыя расійскіх літаратараў на паўстанне 1830–1831 гг. у Польшчы і Літве”. У раздзеле “Публікацыі” надрукаваны працы Р. Шлайтайтэ “Біяграфіі Г. і З. Остэрмеераў” і А. Прашмантайтэ “Жамойцкі біскуп Ё.-А. Гедрайціс — перакладык Новага Запавету”.

Чацвёртая кніга — “Летапісы і княжацкія лісты” — прысвечана пачаткам пісьменства ў Літве. Тэма асвятляецца ў артыкулах А. Явайшаса “З чаго пачалася гісторыя літоўскай літаратуры”; Э. Бінёніса “Сляды славеснай і звычаёвай культуры ў лістах Гедыміна”; Э. Гудавічуса “Гарадская палітыка Гедыміна на фоне яго лістоў”; Р. Чапайтэ “Лісты Вітаўта як узоры эпісталярнага жанру Сярэдневякоўя”. У асобным раздзеле падаюцца матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай лістам Гедыміна. У якасці публікацый змешчаны праца М. Рочкі “Лісты Альгерда канстанцінопальскаму патрыярху”, тэксты лістоў Вітаўта. Публікацыя летапісаў адкрываецца артыкулам А. Явайшаса “Літаратурныя асаблівасці і таямніцы “Кароткага зводу Літоўскіх летапісаў”, далей ідуць урыўкі з “Кароткага зводу Літоўскіх летапісаў” і “Летапісца” вялікіх князёў літоўскіх у перакладзе на літоўскую мову і з каментарыямі А. Явайшаса.

У чарговых тамах “Старой літоўскай літаратуры” плануецца змясціць артыкулы аб праблемах іншамоўнай літоўскай літаратуры — пра яе спецыфіку і пра ўзаемадзеянне літоўскіх і іншамоўных тэкстаў, пра асобных аўтараў, якія пісалі па-лацінску і па-польску (з публікацыяй іх твораў), а таксама працу Ё. Гедрайціса “Апісанне літоўскага народа, яго мовы і літаратуры”.

***Уладзімір Свяжынскі****, кандыдат філалагічных навук*

---

(1) Senoji lietuvos literatūra. Kn. 1: Senosios literatūros žanrai. Vilnius, 1992. P. 7.

# НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банькоўскі-Цюліг** (Швейцарыя), **Алесь Баркоўскі** (Якуція), **Юрась Вашкевіч** (Польшча), **Андрэй Гаўрылюк** (Польшча), **Раіса Жук-Грышкевіч** (Канада), **Адам Мальдзіс**, **Таццяна Махнач**, **Таццяна Пятровіч**.*

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям. З публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў газетах, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі Цэнтра імя Ф. Скарыны.

### БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Акулов Петр.** Идея смыслоутраты и игровое начало в "Хазарском словаре" Милорада Павича и рассказах Хорхе Луиса Борхеса // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 18–20.

**Андреев Анатолий.** Два литературоведения // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 26–29.

**Банах Ирина.** Структура повествования в жанре сентиментального путешествия: (Л. Стерн и Н. М. Карамзин) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 24–27.

**Бельскі Алесь.** Пейзаж як аснова адлюстравання нацыянальнага свету // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 32–36.

**Булацкая Наталья.** Итальянская тема в творческом наследии С. М. Степняка-Кравчинского // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 32–35.

**Валцерова Анна** [Славакія]. Поэтический перевод в словацкой и чешской поэзии после 1945 года // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 36–38.

**Верабей Анатоль.** Уладзімір Караткевіч і Аляксей Канстанцінавіч Талстой // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 41–44.

**Воінаў Мікола.** Славянская паэзія ў рускамоўным узнаўленні Максіма Багдановіча // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 16–20.

**Гончарова-Грабовская Светлана.** Лирическая комедия 80–90-х годов: (поэтика жанра) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 44–47.

**Демчук Наталія** [Львоў]. Про деталь характеру та про характер деталі: (Художня деталь у прозі О. Пушкіна та Т. Шевченка) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 47–50.

**Ильина Наталья.** Изображение Второй мировой войны в польской, американской и японской романистике // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 72–74.

**Казакова Таццяна.** Другі паўднёваславянскі ўплыў і ўрачыстае красамоўства ў Вялікім княстве Літоўскім (пач. XV ст.) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 71–73.

**Карпава Людміла.** Жанрава-стылёвая адметнасць ваеннага рамана Кузьмы Чорнага "Млечны шлях" і досвед сусветнай класікі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 81–84.

**Киселева Ольга.** Алджернон Чарльз Суинберн и Константин Бальмонт: Опыт сравнительной поэтики // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 82–84.

**Ковалева Татьяна.** Николай Бестужев и Жорж Санд: Две интерпретации "Русского в Париже 1814 года" // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 88–91.

**Королева Наталья.** Дионисийский феномен в творчестве Фридриха Ницше и Дмитрия Мережковского // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 92–94.

**Лявонава Ева.** Алесь Разанаў і постмадэрнізм // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 96–99.

**Михеев Константин.** Визуально-графические эффекты в поэзии западноевропейского и русского авангардизма // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 108–112.

**Мощенская Людмила, Зарембо Людмила.** Интерпретация фрагмента "Слова о полку Игореве" в белорусских, русских и польских переводах ("Соколъ въ мытехъ") // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 112–115.

**Навумовіч Уладзімір.** Верлібр Максіма Танка ў кантэксце сусветнай паэтычнай традыцыі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 121–123.

**Невяроўскі Кірыла.** Сусветны кангрэс семінарыстаў: "Укрыжаваны і пакінуты Ісус — мост паміж небам і зямлёй" // Царква. 1999. № 1. С. 11.

**Нефагина Галина.** Категория художественного метода и проблемы систематизации современного литературного процесса // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 121–124.

**Новиков Александр.** Оскар Уайльд — Федор Достоевский: философия красоты и страдания // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 125–128.

**Праскаловіч Вольга.** Творы сусветнай класікі ў перакладах беларускіх пісьменнікаў у школьным курсе роднай літаратуры // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 126–129.

**Приёмка Ольга.** Этнографический контекст свадебных песен восточных славян // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 129–132.

**Рагойша Вячаслаў.** М. Р. Ларчанка і праблемы вывучэння славянскай міжлітаратурнай супольнасці // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 3–6.

**Рагойша Вячаслаў.** Слова пры адкрыцці канферэнцыі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 3.

**Рашэтнікава Ніна.** Дыялог культур на ўроках беларускай літаратуры // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 135–136.

**Синило Галина.** Генрих Гейне и Федор Тютчев: К проблеме контактных и типологических связей // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 150–155.

**Сінькова Людміла.** Іншанацыянальная прысутнасць у творчасці Уладзіміра Жылкі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 149–152.

**Станюта Александр.** Альбер Камю: уроки русской классики // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 166–167.

**Тварановіч Галіна.** Тыпалогія скразных уплываў: (беларуска-паўднёваславянскі кантэкст) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 20–22.

**Фалалееў Уладзімір.** Традыцыі еўрапейскага Сярэднявечча і Адраджэння ў "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 170–173.

**Ходанович Андрей.** Бодлеровский символический образ, механизм суггестии и проблема их поэтического перевода на русский и польский языки ("Une Charogne") // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 184–187.

**Цыбенко Ольга.** Польская и русская лагерная проза: Густав Херлинг-Грудзинский и Варлаам Шаламов // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 191–194.

**Чарота Іван.** Асаблівасці вызначэння нацыянальнага і шырэйшых кантэкстаў у літаратурнай свядомасці Беларусі 1990-х гадоў // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 13–16.

**Шамякіна Таццяна.** Беларускі нацыянальны монаміф у індаеўрапейскім кантэксце // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 9–13.

**Шода Марина.** Мотив волшебного острова/сада в поэтическом творчестве Уильяма Батлера Йейтса и Александра Блока: ("Странствия Ойсина" и "Соловьиный сад") // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 203–206.

**Шпаковский Игорь.** Жанровая специфика современного "житийного" рассказа в свете традиций средневековой агиографической литературы: (диалектика конкретно-исторического и надвременного) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 206–209.

**Юрэвіч Лявон.** Беларуская лексыкаграфія за мяжой // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 211–230.

**Юрэвіч Лявон.** Беларускі тэатр і драматургія на эміграцыі // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 177–210.

**Ярмоленка Валерый.** Забытыя імёны: Вучоны, вынаходнік, вандроўнік…: [Пра Якуба Наркевіча-Ёдку, ураджэнца Беларусі, шырока прызнанага ў свеце] // Род. прырода. 1999. № 2. С. 30.

### • Беларусь – Аўстралія

**Юрэвіч Лявон.** Пакараны вершам: Алесь Салавей: [Пра бел. паэта, які памёр у Аўстраліі] // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 130–141.

### • Беларусь – Балгарыя

**Иванов Красимир.** Национальные особенности болгарского символизма // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 69–72.

### • Беларусь – Вялікабрытанія

**Багінская П. К.** Англійская мова. IV клас: Метадычныя рэкамендацыі // Нар. асвета. 1999. № 3. С. 87–92.

**Казкі** дзяцей Беларусі = Stories by belarusian children. Мн., 1998.

**Лапцёнак Ірына.** Праблема захавання нацыянальнай спецыфікі арыгінала: (на падставе перакладаў Язэпа Семяжона з шэкспіраўскай драматургіі) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 90–93.

**Саркисова Наринэ.** Мистерия Д.-Г. Байрона "Каин" в русской транскрипции // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 145–149.

## • Беларусь – Германія

**Арсентьева Мария.** Дошкольное воспитание в Германии // Пралеска. 1999. № 3. С. 29–30.

**Выхота Валянціна.** “Такі васпане — тычына шапкі не дастане”: Сатыра ў паэме Якуба Коласа “Новая зямля” і ў творчасці нямецкіх паэтаў // Род. слова. 1999. № 3. С. 181–184.

**Грым** браты. Брэменскія музыкі. Мн., 1999.

**Саўчанка Я. А.** Педагогіка як прыкладная філасофія: дыялог з П. Натарпам [нямецкім філосафам] // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 1999. № 1. С. 35–38.

**Budko Alexander.** Conductor coming to the capital: [Пра дырыжора з Германіі, ураджэнца Беларусі Райла Гродзенскага] // Belarus’ Today. 1999. March 30 –Apr. 5.

**Philyukova Tatiana.** IBB hosts environmental seminar // Minsk News. 1999. March 2–8.

## • Беларусь – Грузія

**Гаприндашвили Нана** [Тбілісі]. Символика березы в контексте грузино-белорусских литературных взаимоотношений // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 44–47.

## • Беларусь – Грэцыя

**Кенько Т.** Гераклом по белу свету: [Пра старажытнагрэчаскую міфалогію] // Библиотека предлагает. 1999. № 0. С. 13–16.

**Шамякіна Таццяна.** Культура класічнай Грэцыі // Род. слова. 1999. № 3. С. 185–191.

## • Беларусь – ЗША

**Зарэмба Людміла.** “Плач Яраслаўны” Масея Сяднёва [бел. пісьменніка ў ЗША]: (да пытання мастацкага светапогляду) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 56–59.

**Міцкевіч Міхась.** (Зь лістоў да Юркі Віцьбіча) / Публ. Л. Юрэвіча // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 242–280.

**Серых Галина.** Пастырь из Лос-Анджелеса: [Пра пратаіерэя Канстанціна Цівецкага] // Царкоўн. слова. 1999. № 3. С. 14.

**Юрэвіч Лявон.** Апостал кахання: Рыгор Крушына: [Пра бел. паэта ў ЗША] // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 124–129.

**Юрэвіч Лявон.** Змагары з “Баявой Ускалосі”: [Пра эмігранцкае выданне] // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 166–176.

**Юрэвіч Лявон.** Паэзія й праўда жыцьця: Янка Юхнавец: [Пра жыхара ЗША] // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 114–123.

**Юрэвіч Лявон.** “Русальчына бальляда”: Міталёгія й дэманалёгія ў паданьнях Сьвятаслава Каўша: [Пра святара, які жыў у ЗША] // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 71–87.

**Юрэвіч Лявон.** Чорт, Янка Юхнавец [паэт у ЗША] ды беларуская літаратура // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 91–113.

**Opera** with Bontrager: [Пра гастролі ў Мінску амерыканскага дырыжора] // Belarus’ Today. 1999. March. 23–29.

## • Беларусь – Індыя

**Кави** Рабиндранат Тагор: [Друкуюцца таксама пераклады вершаў] // Оникс (Лида). 1999. № 8. С. 13–14.

## • Беларусь – Ірландыя

**Рагойша Усевалад.** Міф і міфатворчасць у літаратуры нацыянальнага адраджэння: (вобраз Бацькаўшчыны ў Алеся Гаруна і Уільяма Батлера Йейтса) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 132–135.

## • Беларусь – Іспанія

**Багдановіч Ірына.** Іспанскія матывы ў паэзіі Максіма Багдановіча // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 30–32.

## • Беларусь – Італія

**Ладуцька Ірына.** Гульня ў камедыю: “Сублімацыя кахання” Альда дэ Бенэдэці ў выкананні “Віртуозаў сцэны” // Мастацтва. 1999. № 3. С. 7.

**Некрашэвіч Жанна.** Сюжэты “Дэкамерона” ў творчасці Ф.-У. Радзівіл // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 123–126.

**Татарыновіч Пётра:** [Лісты П. Татарыновіча з Рыма да Ю. Віцьбіча і наадварот] / Публ. Л. Юрэвіча // Юрэвіч Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Мн., 1999. С. 231–241.

## • Беларусь – Йемен

**Алі Каід Алі Махамед.** Ісламская рэлігія — аснова дзяржаўнага кіравання Йеменскай Рэспублікі // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 1999. № 1. С. 45–49.

## • Беларусь – Латвія

**Ключенович Инга.** Роман “Императорский безумец” Яана Кросса в контексте исторической прозы ближнего зарубежья // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 85–88.

## • Беларусь – Літва

**Кулеш А. Ф.** Гедимин — великий организатор Великого княжества Литовского // Оникс (Лида). 1999. № 8. С. 3–4.

## • Беларусь – Нарвегія

**Уткевіч Вольга.** Архетып дома і сялібы ў творчасці Максіма Гарэцкага і Кнута Гамсуна // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 167–170.

## • Беларусь – Польшча

**Булгакаў Валерка.** Беларуска-польскія культурныя ўзаемасувязі і эпісталярная спадчына Ф. Багушэвіча // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 36–38.

**Вакар Людміла.** Таямніцы унікальнай калекцыі: [Пра мастацкі музей у Атрэнбусах, Польшча] // Мастацтва. 1999. № 3. С. 17–21.

**Гардзіцкі А.** Госці з Варшавы [пісьменнікі Ч. Сэнюх і З. Фядэцкі] // Літ. і мастацтва. 1999. 12 лют.

**Гудаў М. В.** Палітыка беларускіх нацыянальна-дэмакратычных арганізацый на заключным этапе савецка-польскай вайны // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 1999. № 1. С. 74–77.

**Гуліцкая Таццяна.** Унія ў трактаце Пятра Скаргі “Пра адзінства касцёла Божага” // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 47–49.

**Дробаў Л.** Валенцій Ваньковіч: [Пра беларускага і польскага мастака] // Библиотека предлагает. 1999. № 0. С. 17–18.

**Дылеўская Валянціна.** Якуб Колас і Адам Міцкевіч: вопыт школьнага вывучэння // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 54–56.

**Загідуліна Марына.** Першанатхнёныя слаўным ліцвінам: Ілюстрацыі да твораў Адама Міцкевіча мастакоў XIX ст. // Мастацтва. 1999. № 3. С. 38–40.

**Кароткі Уладзімір.** Ян Вісліцкі: паміж Ягелонамі і Рурыкавічамі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 79–81.

**Карпова Елена.** Черты шляхетской гавэнды в рассказе Зигмунта Качковского “Битва за дочку хорунжего” // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 78–82.

**Літвіновіч Анатоль.** Старажытныя элементы ў беларускай і польскай парэміялогіі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 93–96.

**Лойка Алег.** Польска-беларускія літаратурныя кантакты першай паловы XX стагоддзя // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 6–9.

**Малюковіч Святлана.** Радзівіл “Пане Каханку” ў трылогіі Ю.-І. Крашэўскага // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 101–104.

**Мусиенко Светлана.** “Исторический костюм” в романах древнеримского цикла Теодора Парницкого в свете вопросов теории // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 8–14.

**Пузына Габрыэля.** У Вільні і літоўскіх маёнтках: Успаміны з 1815–1843 гадоў / Пер. з пол. // Літ. і мастацтва. 1999. 26 сак.

**Сава (Грыцуняк) мітрапаліт.** “Крызіс паўстаў з-за адступства ад царквы”: (Гутарка з Блажэннейшым Савам, мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы) / Зап. Юрась Залозка // Царкоўн. слова. 1999. № 3. С. 7.

**Тарасюк Люба.** Янка Купала і “Młoda Polska” // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 155–157.

**Ткачова В. А.** То майго сэрца любая айчына: (да 200-годдзя з дня нараджэння А. Міцкевіча): [Фотаальбом]. Гродна, 1998.

**Хаустовіч Мікола.** Творчасць Рамуальда Падбярэскага віленскага перыяду // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 173–177.

**Хмяльніцкі Мікола.** Беларуска-польскае сумежжа ў мастацкім свеце Адама Плуга // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 177–179.

**Царева Ольга.** Сопоставительный анализ художественных переводов “Крымских сонетов” Адама Мицкевича // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 187–190.

**Якубоўскі Я.** Гісторыя Польшчы [Дыбкоўскай, Малгажаты і Яна Жарыных] са старажытных дзён да нашых часоў // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 52–54.

**Grabowski Grzegorz**. Hymny narodowe RP: Narodziny "Roty" [на словы М. Канапніцкай] // Głos znad Niemna. 1999. 2 kwiet.

**Iwanowski Witold**. Obrazy obiektywem malowane: [Пра выстаўку ў Мінску фатаграфій Яна Булгака] // Głos znad Niemna. 1999. 12 marca.

**J. S**. [Шлендак Я.]. Konspekty lekcji z literatury polskiej: [Пра Т. Ленартовіча, З. Налкоўскую. З. Косак-Шчуцкую] // Głos znad Niemna. 1999. 26 marca.

**Malinowska Natalia**. Związek Polaków na Białorusi odmawia udziału w III Ogólnorepublikańskim Festiwalu Kultur Narodowościowych: Polacy, bądźcie solidarni! // Głos znad Niemna. 1999. 26 marca.

**[Maszkiewicz Mariusz]**. Nasze narody łączy wiele wspólnego: Korespondent "Głosu znad Niemna" spotkał się z Ambasadem RP w Mińsku dr. Mariuszem Maszkiewiczem i poprosił go o udzielenie odpowiedzi na pytania naszych czytelników / Rozm. Waldemar Preckajło // Głos znad Niemna. 1999. 12 marca.

**Sokołowski Romuald**. Pozostał w pamięci: [Пра Рамуальда Траўгута] // Głos znad Niemna. 1999. 19 marca.

**Szlendak Janina**. Konferencja metodyczna nauczycieli w Grodnie // Głos znad Niemna. 1999. 26 marca.

**Szlendak Janina**. Konspekty lekcji z literatury polskiej: [Пра П. Чыжэўскага, С. Рэйманта, М. Канапніцкую, Я. Каханоўскага] // Głos znad Niemna. 1999. 12 marca.

**Szlendak Janina**. Konspekty lekcji z literatury polskiej: [Пра У. Бэлзу, В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлю, В. Шымборскую, А. Асныка] // Głos znad Niemna. 1999. 19 marca.

**Szlendak Janina**. Konspekty lekcji z literatury polskiej: [Пра К.-І. Галчынскага і С. Лема] // Głos znad Niemna. 1999. 2 kwiet.

**T. Z**. [Залеская Т.]. Konferencja sprawozdawczo-wyborcza Towarzystwa Lekarzy Polskich na Białorusi: Aktywizować działalność // Głos znad Niemna. 1999. 26 marca.

**T. Z**. [Залеская Т.]. Najlepsi z najlepszych: Dobiegła końca VII Olimpiada Literatury i Języka Polskiego na Białorusi. Jej końcowy republikański etap odbył się 13–14 marca w Polskiej Szkole w Grodnie // Głos znad Niemna. 1999. 19 marca.

**Zaleska Tatiana**. "Maluję to, co jest piękne": [Пра гродзенскага мастака Ігара Мазалевіча] // Głos znad Niemna. 1999. 19 marca.

### • Беларусь – Расія

**Алешка Татьяна.** Традиции Бориса Пастернака в поэзии Беллы Ахмадулиной // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 20–24.

**Андреев А. Н.** Феномен Онегина // Нар. асвета. 1999. № 3. С. 77–86.

**Афонін Л.** Татарская мова Лермантава // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 72–73.

**Башкиров Дмитрий.** К проблеме идеального в древней русской литературе и в романе Ф. М. Достоевского "Идиот" // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 27–30.

**Белокурский Георгий.** У часовни блаженной Ксении Петербургской // Царкоўн. слова. 1999. № 2. С. 5.

**Блищ Наталья.** О приемах мифологизации в поэтике романа "Подстриженными глазами" А. М. Ремизова // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 30–32.

**Гладкий Александр.** Андрей Белый о Федоре Сологубе // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 41–44.

**Даўгун Алена.** Славянскія традыцыі ў беларускай літаратуры: (Вывучэнне паэзіі Я. Купалы ва ўзаемадачыненні з творчасцю М. Някрасава ў сярэдняй школе) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 49–51.

**Добрицкая Ирина.** Природа комического в рассказах Антона Чехова о детях // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 50–54.

**Егоров Игорь.** Проблема читателя в творчестве Е. А. Баратынского // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 54–55.

**Жемчужный Игорь** [Курск]. Особенности формирования творческой системы Игоря Северянина // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 59–62.

**Звозников Александр.** Религия в духовных исканиях Льва Толстого: (Исторические и современные аспекты) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 63–65.

**Зыль Татьяна.** И. А. Бунин и А. С. Пушкин: (Сопоставление как прием постижения стилевого своеобразия лирики учащимися XI класса) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 66–69.

**Іваноўскі В. С.** Гісторыя сусветнага тэатра: [Пра драматургію рускага класіцызму] // Нар. асвета. 1999. № 3. С. 51–58.

**Капцев Владимир.** Основные мотивы драматургии Иннокентия Анненского: ("Меланиппа-философ" и "Лаодамия") // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 75–77.

**Конан Уладзімір.** Казімір Малевіч: філасофія і эстэтыка мадэрнізму // Мастацтва. 1999. № 3. С. 2–3.

**Костевич Наталья.** Николай Гумилев: предшественники и последователи // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 94–97.

**Лабынцев Ю.** "На благое просвещение": [Пра гомельскую бібліятэку М. Румянцава, якая стала асновай Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве]. Минск, 1999.

**Лаптева Анна.** Жанровая специфика современной исторической поэмы: (на материале русской и белорусской литератур) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 86–89.

**Лісаў Аляксандр.** Перадзвіжнікі і беларуска-літоўскі рэгіён: [Пра дзейнасць Таварыства перасовачных мастацкіх выставак] / Пер. з рус. мовы // Мастацтва. 1999. № 3. С. 35–37.

**Лысенко Софья.** Историческая проза Ольги Форш 20-х годов XX века // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 97–100.

**Люкевич Виктор.** Символика "Суходола" Ивана Бунина в контексте русской культурной традиции // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 100–104.

**Меланьина Екатерина.** Поэтика творчества А. Введенского в контексте мистико-религиозного опыта: (на примере драматической поэмы "Кругом возможно Бог") // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 104–108.

**Мишутина Анна.** Иосиф Бродский и русские поэты XIX века // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 112–115.

**Мішчанчук Мікола.** Максім Багдановіч і Яўгеній Баратынскі: спроба параўнальнага аналізу // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 110–112.

**Мурзич Люся.** Герой в русской научной фантастике конца XIX – начала XX века // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 115–118.

**Нестеренко А.** Анненковские "Материалы для биографии Александра Пушкина": (К проблеме формирования биографического метода в русском литературоведении) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 118–121.

**Нестерович Л.** Художественные портреты Александра Сергеевича Пушкина // Бібліятэка прапануе. 1999. № 1. Сак. С. 14–18.

**Патук Т.** КВН по сказкам А. С. Пушкина (для начальной школы) // Бібліятэка прапануе. 1999. № 1. Сак. С. 19–22.

**Пертель Татьяна.** Демон Георгия Иванова и культурная традиция // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 132–134.

**Позняк Светлана.** "Из подростков созидаются поколения…": (Тема "отцов" и "детей" в романе Федора Достоевского "Подросток") // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 134–137.

**Рахуба Татьяна.** Раннее творчество Игоря Северянина в зеркале русских критиков 1910–1915 гг. // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 140–142.

**Сабалеўскі Анатоль.** Здзейсненае: Еўсцігней Міровіч [рускі і беларускі драматург] і беларускі тэатр // Мастацтва. 1999. № 3. С. 4–6.

**Савченко Ирина.** Проблема этнического выбора в "юношеской" лирике Николая Гумилева // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 142–145.

**Северинец Анна.** Творчество Гайто Газданова и новый европейский роман // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 149–150.

**Сипайло Елена.** Библейские мотивы в романе "Чевенгур" А. Платонова // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 154–155.

**Сіпакоў Янка.** Вечны скарб: Да 200-годдзя А. С. Пушкіна: [Эсэ] // Маладосць. 1999. № 3. С. 214–228.

**Скоропанова Ирина.** Либидо исторического процесса в книге Д. Е. Галковского "Бесконечный тупик" // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 158–162.

**Смирнов Александр.** Романтическая ирония в "Мертвых душах" Николая Гоголя // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 162–165.

**Тимошенко Марина, Чумакевич Элла.** Поэтическая перекличка Александра Блока и Вячеслава Иванова // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 170–172.

**Федотов Олег** [Масква]**, Шелемова Антонина.** Символика "Центра" в "Слове о полку Игореве" // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 172–175.

**Федута Александр.** Николай Карамзин: эволюция отношений с читателем // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 176–180.

**Хаймович Марина.** В. В. Розанов: творчество в контексте мировой культуры // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 180–181.

**Хилько Наталья.** Апофеоз условного мира: Пьеса Евгения Шварца "Голый король" // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 181–184.

**Чаеўская Марына.** М. Ляскоў і стыль маладой прозы Беларусі 20-х гг. // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 180–182.

**Чернова Галина.** Н. И. Надеждин: У истоков русской философской критики // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 194–196.

**Чернова Мария.** С. Н. Булгаков о народности русской литературы: (в контексте религиозно-философской мысли начала XX в.) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 197–200.

**Чубаков Сергей.** Смысл эпиграфа к "Путешествию из Петербурга в Москву" А. Н. Радищева // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 200–201.

**Чумакевич Элла, Тимошенко Марина.** Статьи и памфлеты Саши Черного // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 201–203.

**Якавенка Наталля.** Праблема беларуска-рускага аўтарскага перакладу // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 188–190.

**Яцухна В.** Пушкін і Беларусь // Бібліятэка прапануе. 1999. № 1. Сак. С. 23–25.

## • Беларусь – Славакія

**Семакова Сильвия** [Славакія]. О белорусско-словацких культурных связях // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 143–145.

**Сипко Йозеф** [Славакія]. Экзотизмы в русско-словацких переводах // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 155–158.

## • Беларусь – татары

**Александровіч І.** Хадж — 1418 г. Хіджры (Паломніцтва — 1998 г.): [Пра паломніцтва ў Мекку Саудаўскай Аравіі] // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 17–20.

**Болатаў Андрэй.** Славуты ўсходазнавец з Навагрудчыны: [Пра Антона Мухлінскага] // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 74.

**Ідэгей–**татарскі народны эпас // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 59–61.

**Канапацкі І.** Мова літоўскіх (беларускіх) татараў // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 104–124.

**Канапацкі І.** Справа № 35137 паўнамоцнага прадстаўніцтва АДПУ БССР аб контррэвалюцыйнай дзейнасці татарскай арганізацыі ў Мінску // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 33–44.

**Клімовіч Алена.** Сармацкі партрэт беларускага танца // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 125–127.

**Людзі** як колеры: [Пра мастака Айшу Александровіч] // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 128–132.

**Прыхач Уладзімір.** Татарская спадчына Смаргоншчыны // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 63.

**Ранькові́ч Я.** Успамінаем з павагай і ўдзячнасцю: [Пра ансамбль "Крым"] // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 62.

**Сям'я Фатыхавых.** Нарадзіўся ў Башкортастане, павагу і пашану заслужыў на Беларусі: [Пра Ахмета Фатыхава] // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 70–71.

**Татарскі** мартыролаг ахвяр палітычных рэпрэсій у Беларусі // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 23–32.

**Татарскі** след Беларусі [у гродзенскім Музеі гісторыі рэлігіі] // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 95–97.

**Цэсак Бэата Анна.** З гісторыі Навукова-даследчага інстытута Усходняй Еўропы ў Вільні // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 64–66.

**Якуб Адам.** Невялікі абразок з жыцця татарскай сям'і на Беларусі ў 1943 і 1944 гадах // Байрам: Татары на зямлі Беларусі. 1998. Вып. 2. С. 55–58.

## • Беларусь – Украіна

**Гольберг Марк** [Драгобыч]. Порівняльне вивчення літератур і деякі проблеми слов'янської історичної поетики // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 4–7.

**Кабржыцкая Тацццяна.** Мікола Хвылявы ў кантэксце беларускай літаратуры // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 66–67.

**Кароткі Уладзімір.** І плач, і напамін…: Мялецій Сматрыцкі і яго "Трэнас" // Род. слова. 1999. № 3. С. 57–62.

**Навойчык Павел.** "Лясная песня" Лесі Украінкі і "Сон на кургане" Янкі Купалы: тыпалогія канфлікту // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 118–121.

**Роздольська Ірина** [Львоў]. Слова, народжені в лісах: (до історії білоруської та української партизанської поезії періоду Другої світової війни) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 137–139.

**Щербак Марія** [Драгобыч]. Російськомовна Стефаникіана і деякі актуальні питання сучасної перекладознавчої науки // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 209–212.

### • Беларусь – Францыя

**Жак Галина.** Вольнодумное понимание дружбы в лирике Теофиля де Вио // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 56–59.

**Капшай Н., Каховская О., Фирсова О.** "Обелиск" Василя Быкова и "Стена" Жана-Поля Сартра: Опыт типологического прочтения // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 73–76.

**Крэпак Барыс.** Ці існуе "таямніца" Пабла Пікаса? // Культура. 1999. 3–9 крас.

**Лявонава Ева.** "Я жыў, але ранейшага мяне навекі няма…": Першая сусветная вайна ў творчасці Максіма Гарэцкага і Анры Барбюса // Род. слова. 1999. № 3. С. 24–30.

**Парфиянович Юрий.** Мир французской и русской культур в повести Натали Саррот "Детство" // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 128–132.

**Ромейко Елена.** Экзистенциалистические мотивы в творчестве Ромена Гари и Василя Быкова // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 139–142.

**Mashenko Svetlana.** French-Belarusian art season // Minsk News. 1999. March 9–15.

### • Беларусь – Чэхія

**Вострикова Елена.** Национальная и мировая история в творчестве Милана Кундеры // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 39–41.

**Вострыкава А. У.** Філасофія ў раманах Мілана Кундэры // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 1999. № 1. С. 108–112.

**Захавальнікі** традыцыяў руху "Хартыя-77" у Чэхіі салідарныя з прадстаўнікамі руху "Хартыя-97" на Беларусі // Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі: Бюлетэнь. 1998. № 4. Лют. – сак. С. 14.

**Стаценко Екатерина.** Общечеловеческое и национальное в романе Йозефа Шкворецкого "История инженера человеческих душ" // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 167–170.

**Шаблоўская Ірына.** "Кафкарня" Багуміла Грабала // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 14–18.

### • Беларусь – Швейцарыя

**Попова Майя.** Мотив изменяемости в швейцарской "Драматургии сомнения" (Макс Фриш — Фридрих Дюрренматт) // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 1. С. 137–140.

### • Беларусь – Югаславія

**Чарота Іван.** Косава: гісторыя і сучасны стан праблемы // Царкоўн. слова. 1999. № 5. С. 6–7.

**Patutin Alexander.** Belarus, Russia support Serbs // Belarus' Today. 1999. March 30 – Apr. 5.

## ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ

**Adam** Mickievič (1798–1855) // Belarusian Chronicle. 1998. No. 6. P. 6–7.

**The association** of belarusians in Great Britain — 50 years on: (Established 1946) // Belarusian Chronicle. 1998. No. 6. P. 4–5.

**Buta A**. Red berries and pieces of chalk: ("Larks' Rise to Akuninava") // Belarusian Chronicle. 1998. No. 6. P. 12–13.

**The devastation** of Belaruś (1648–1667) // Belarusian Chronicle. 1998. No. 6. P. 3–4.

**Mickievic Adam**. Szto staic u bylicy: "O Litva, my homeland" // Belarusian Chronicle. 1998. No. 6. P. 6.

**Šaucou Paval**. The Lithuanian Statute (1588): (Conclusion) // Belarusian Chronicle. 1998. No. 6. P. 7–8.

**Victor** Astrouski (1912–1975) // Belarusian Chronicle. 1998. No. 6. P. 7.

## ЗША

**Адамовіч Вечаслаў.** Беларускае пытаньне ў Польшчы: Дакументы "Зялёнага дубу": (Са збораў Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане) / Пер. Алесі Сёмуха // Беларус. № 461. Сак. С. 4.

**Зь гісторыі** беларуска-амэрыканскіх дачыненняў // Беларус. № 461. Сак. С. 6.

**Л. Ю.** [Юрэвіч Л.]. Максім Шчур // Беларус. № 461. Сак. С. 5.

**Л. Ю.** [Юрэвіч Л.]. Пісьменьнікі на эміграцыі // Беларус. № 461. Сак. С. 5.

**[Ластоўскі В.]**. Дзень 25 марца — нацыянальнае свята Беларусі (з архіву) / Публ. Януша Крывіцкага // Беларус. № 461. Сак. С. 1.

**Мароз Валянціна.** Пра беларускую мову // Беларус. № 461. Сак. С. 3.

**Шевельов Юрий Володімирович.** Матеріали до бібліографії: [У зборнік, выдадзены да 90-годдзя ўкраінскага славіста, увайшлі і пяць яго беларусазнаўчых прац] / Склад. Лев Чабан, Андрій Даніленко. Нью Ёрк, 1998.

**Clem James Dr**. Conference on Belarus at Harvard // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 32.

**Kovalevski Viktor**. New Immigrants [з Беларусі] to Australia // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 32.

**Lorenz Astrid**. Relationship Between Belarus and Western Europe // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 10–11.

**Marples David R**. Ukraine and Belarus: Politics, Social Mobility and the Next Generation // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 11–15.

**Piontkovsky Andrei**. Who Lost Belarus? — The Russian View // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 15–16.

**Smith Christopher H**. U. S. Commission on Security and Cooperation in Europe Views Situation in Belarus as Critical // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 9–10.

**Stankevich George**. Belarusian Diaspora Meeting in Prague // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 18.

**U.S. Department** of State Report on Human Rights Practices in Belarus for 1998 // Belarusian Review. 1999. Vol. 11. No. 1. P. 2–8.

## КАНАДА

**Каардынацыйны** камітэт беларусаў Канады: Камунікат. 1999. № 2. Сак.

## ПОЛЬШЧА

**Валкавыцкі Георгій.** Шлях у Беларусь: [Размова з заснавальнікам і шматгадовым галоўным рэдактарам “Нівы”] / Зап. Ада Чачуга // Ніва. 1999. 21 сак.

**Ваўранюк Мікола.** За вашу і нашу свабоду: Дажыліся. У Беластоку на вуліцы Ліповай дэманстрацыя з бел-чырвона-белымі сцягамі! Нясуць іх… палякі. Маладыя // Ніва. 1999. 14 сак.

**Гайдук Мікола**. Неаўтарызаваная размова, 14.03.1998, 23.04.1998: [Інтэрв’ю] / Зап. Лена Глагоўская // Czasopis. 1998. Nr. 11. S. 19–21.

**Глагоўская Лена.** Памерла вучаніца Агрыпіхі [пісьменніца і медык Н. Бітэль-Дабжынская] // Ніва. 1999. 14 сак.

**Глагоўская Лена.** Памяць пра прэзідэнта БНР [Васіля Захарку ў Празе] // Ніва. 1999. 21 сак.

**Глагоўская Лена.** Школа-легенда: [Пра Віленскую беларускую гімназію] // Ніва. 1999. 28 сак.

**Жамойцін Янка.** Беларускі вечар у Варшаве // Ніва. 1999. 14 сак.

**Лаўроўская Ірына.** Брэст — самабытны горад // Ніва. 1999. 14 сак.

**Леванові Леанід.** Збіраем добрае: З пісьменнікам Леанідам Левановічам гутарыць Міра Лукша // Ніва. 1999. 14 сак.

**Луба Віталь.** Беларускі трэці сектар: [Рэц. на: Białoruś. Trzeci Sektor. Wydanie specjalne / Red. wyd.: Paweł Kazanecki. Warszawa; Mińsk, 1998] // Ніва. 1999. 28 сак.

**Лукша Міра.** “Белавежскія” зубры: [Пра вынікі работы бел. літ. аб’яднання] // Ніва. 1999. 28 сак.

**Мароз Аляксей.** Гімназіі ў Гайнаўцы // Ніва. 1999. 14 сак.

**Мінцэвіч Міхал.** Шлях у гімназію [у Орлі] // Ніва. 1999. 4 крас.

**Міраноіч Яўген.** Вайна і перамога: [Рэц. на кн.: Быкаў В. Сцяна. Мн., 1997] // Ніва. 1999. 14 сак.

**Саевіч Тамаш.** Вясна ў Варшаве: [Пра выстаўку Лявона Тарасэвіча] // Ніва. 1999. 28 сак.

**Урбан Вацлаў.** Беларусы ў рэнесансным Кракаве // Ніва. 1999. 14, 21 сак.

**IV Агульнапольскі конкурс** беларускай паэзіі і прозы // Ніва. 1999. 14 сак.

**Bołtryk Michał**. Ratunek: [Пра нямецкую супольнасць “Rettung” у Мінску] // Nowe Kontrasty. 1998. Nr. 11. S. 21.

**Gawryluk Andrzej.** Białoruś: Trudna droga do niepodległości // Gazeta Olsztyńska. 1999. 25 marca.

**Głowacki Albin.** Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich Drugiej Rzeczypospolitej 1939–1941. Łódź, 1997.

**Maziarski Wojciech**. Sennie, cicho, groźnie: Katolicka prawica robi wszystko, żeby na Białostocczyźnie powstała antypolska elita białoruska // Gazeta Wyborcza. 1998. 5–6 wrześ.

**Rozmowa** miesiąca z przewodniczącym Zarządu Obwodowego [Брэсцкай вобл.] Związku Polaków na Białorusi Antonim Filipczukiem: Polska się cofa / Rozm. Marek A. Korpowski // Nowe Kontrasty. 1999. Nr. 4. S. 3–5.

## РАСІЙСКАЯ ФЕДЭРАЦЫЯ

### Расія

**Автухович Т. Е.** (Гродно). Мифологическое начало в ранних формах романа // Проблемы современного изучения русского и зарубежного историко-литературного процесса: Материалы XXV зональной науч.-практ. конф. литературоведов Поволжья и Бочкаревских чтений. Самара, 1996. С. 20–23.

**В поисках** истинного блага: Рассказы молодых писателей Украины и Белоруссии: [У зборнік уключаны творы Андрэя Федарэнкі і Барыса Пятровіча ў перакладзе Уладзіміра Машкова]. М., 1999. (Библиотека современной литературы Содружества независимых государств).

**Вернадский Г. В.** Россия в средние века / Пер. с англ. [У раздзелах III, VI–VIII ёсць беларускі матэрыял]. Тверь; М., 1997.

**Гиль В.** Хотим сравнить себя с другими: [Пра бел. нар. ансамбль «Магілёўцы»] // Клуб. 1998. № 2. С. 7.

**Голубович А. К.** Достояние республики: [Пра Нац. гіст. архіў Беларусі] // Труд. 1998. 23–29 янв. (“Труд” в Беларуси”).

**Ковалева И.** Не умом, так любовью спасемся: [Пра Алееся Адамовіча] // Общ. газ. 1998. 22–28 янв.

**Кузьмин Г.** Заглядывая вперед: [Уражанні ад наведання расійскімі пісьменнікамі Беларусі] // Встреча. 1998. № 1. С. 8.

**Милютин А.** Готовим специально для XXI века: [Гутарка з рэктарам Мінскага Міжнар. ін-та радыеэкалогії] / Зап. Т. Ермак // Труд. 1998. 23–29 янв.

**Ореханова Г.** Двенадцать щедрых вечеров: О гастролях в Минске МХАТа им. М. Горького // Встреча. 1998. № 2. С. 4–6.

**Шамякин И.** Сердце тревожится: [Гутарка з бел. пісьменнікам] / Зап. Г. Кузьмин // Встреча. 1998. № 1. С. 4.

### Якуція

**Барковский А.** Слово “якут” произошло от фамилии белоруса [першаадкрывальніка Якутовіча] // Якутск вечерний. 1999. 23 апр.

## ФРАНЦЫЯ

**Kronika** białoruska // Kultura. 1999. Nr 4. S. 106–107.

**Studnicki-Gizbert Konrad W.** Polska widziana z Nieświeża: [Рэц. на кн.: Szymanowski Genadiusz. Dwanaście lat — wspomnienia z lat 1927–1939. Toruń, 1998] // Kultura. 1999. Nr 4. S. 152–155.

## У РЭДАКЦЫЮ БЮЛЕТЭНЯ ПАСТУПІЛІ:

**Акадэмік** Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі (да 70-годдзя з дня нараджэння): Бібліяграфія. Мн., 1998.

**Грабина** (Ольштын, Польшча). 1999. № 160. Сак.; № 162. Крас.

**Жезницкий И.** Земля — Небо для Человека: Размышления на пороге XXI века. Минск, 1999.

**Кастусь Каліноўскі.** За нашую вольнасць: Творы, дакументы / Укл., прадм., паслясл., перакл. і камент. Г. Кісялёва. Мн., 1999.

**Права** на волю. 1999. № 5. Сак.; № 6. Сак.

**Чернатов В. М.** Георгий Заборский. Минск, 1998. (Майстры каменнага летапісу).

**Gazeta** o mniejszościach Andrzeja Gawryluka. 1998. Nr 8. Czerw.

**Kronika** białoruska Andrzeja Gawryluka. 1998. Nr 3. Sierp.; Nr 6. Wrześ.; Nr 7. Grudz.

**Więż.** 1999. Nr 4. (“Nowa mapa Europy”).

## ВІНШУЕМ ЮБІЛЯРАЎ

Сардэчна віншуем з юбілеем ***Тамару Шкурко***, рэферэнта МАБ на грамадскіх асновах, сябра выдавецка-тэхнічнай групы “Кантактаў і дыялогаў”, стараннага працаўніка Цэнтра імя Ф. Скарыны, добрага чалавека.

Моцнага здароўя і спакойнага жыцця Вам, спадарыня Тамара!

## ПОШУК АБ'ЯДНОЎВАЮЧАЙ ІДЭІ

17–18 красавіка 1999 г. у старажытным беларускім горадзе на Нёмане Гродне адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Беларуская нацыянальная ідэя”. Адметнасць гэтага прадстаўнічага форуму навукоўцаў-тэарэтыкаў і практыкаў заключалася ўжо ў тым, што ўпершыню ў Беларусі была праведзена міжнародная канферэнцыя, цалкам прысвечаная аналізу палітычных, рэлігійных, этнакультурных, моўных і біялагічных аспектаў беларускай нацыянальнай ідэі ў мінулым і ў сучасны перыяд. На канферэнцыі былі прадстаўлены даклады і выступленні вучоных і практыкаў з чатырох краін — Беларусі, Расіі, Польшчы і Украіны. Арганізатарам дадзенага форуму з'яўляўся Каардынацыйны камітэт “Гродзенская ініцыятыва”.

У першы дзень адбыліся два пасяджэнні, на якіх з цікавымі, нярэдка спрэчнымі, дыскусійнымі дакладамі і паведамленнямі выступілі такія вядомыя навукоўцы розных спецыяльнасцей (гісторыкі, філосафы, біёлагі, археолагі, фізікі), як дактары навук Алесь Астроўскі, Лена Глагоўская, Уладзімір Конан, Алесь Краўцэвіч, Андрэй Майсяёнак, Аляксей Мікуліч, Яўген Міраповіч, Аляксей Саламонаў, Юрый Хадыка; кандыдаты навук Анатоль Астапенка, Лявон Баршчэўскі, Эдвард Зайкоўскі, Святлана Марозава, Ігар Міклашэвіч, Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, Мікола Хаустовіч і інш. Адзін з удзельнікаў канферэнцыі слушна адзначыў, што сёння надзвычай важнае значэнне набываюць пошукі беларускай нацыянальнай ідэі замежнымі навукоўцамі, бо гэта дазваляе нам атрымаць даволі арыгінальны (а часам і нечаканы) погляд на саміх сябе, так бы мовіць, не знутры, а збоку.

На канферэнцыі былі прадстаўлены разнастайныя вызначэнні беларускай нацыянальнай ідэі, выказаны розныя, часам амаль супрацьлеглыя меркаванні наконт яе сутнасці, адметных рысаў, ролі і значэння ў жыцця беларускага грамадства ў мінулым і сёння. Прыемным быў той факт, што да пачатку форуму быў выдадзены невялікі зборнік тэзісаў, які атрымалі аўтары. Практычна ўсе ўдзельнікі канферэнцыі выказаліся за тое, каб у бліжэйшы час былі надрукаваны поўныя тэксты ўсіх дакладаў і паведамленняў, а таксама каб падобныя мерапрыемствы праводзіліся, па магчымасці, штогодна.

У другі дзень адбыліся трэцяе пасяджэнне і змястоўная агульная дыскусія, у якой прынялі актыўны ўдзел амаль усе прысутныя. Увечары ўдзельнікі канферэнцыі сталі зацікаўленымі сведкамі, па сутнасці, сольнага канцэрта аднаго з найбольш вядомых і арыгінальных беларускіх бардаў — Віктара Шалкевіча, які выканаў шмат песень іранічна-сатырычнага, філасофскага і лірычнага характару.

Увогуле, арганізацыя і правядзенне дадзенай канферэнцыі сталася даволі

значнай і знамянальнай падзеяй у навуковым і грамадска-палітычным жыцці Беларусі. Вынікі работы канферэнцыі павінны даць яшчэ адзін, новы імпульс для выпрацоўкі такой адзінай беларускай нацыянальнай ідэі, якая змагла б аб’яднаць, кансалідаваць нашае сённяшняе “расколатае” грамадства, вывесці яго на адзіна магчымы шлях да “лепшай долі”.

***Эдуард Дубянецкі**, удзельнік канферэнцыі*

## ДЗЕЛЯ ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЯ Ў ДУХОЎНЫМ БЫЦЦІ

28 красавіка ў Цэнтры імя Ф. Скарыны адбыліся другія заняткі навукова-метадычнага семінара “Рэлігія і асвета”. Асноўная мэта семінара — наладзіць супрацоўніцтва даследчыкаў, асветнікаў, дзеячаў царквы, творчай інтэлігенцыі Беларусі ў сферы адукацыі і выхавання, каардынаваць навукова-асветніцкую, рэлігійна-асветніцкую, інфармацыйную дзейнасць для выпрацоўкі арганізацыйных, навукова-метадалагічных, ідэалагічных і маральна-этычных прынцыпаў асветніцкай дзейнасці свецкіх і царкоўных арганізацый.

Удзельнікі семінара ставяць перад сабой задачы падрыхтаваць цыклы навукова-практычных і метадычных дакладаў, лекцый, прапаноў па гісторыі і сучасных праблемах асветніцтва ў Беларусі, якія маглі б легчы ў аснову артыкулаў, калектыўных зборнікаў, іншых публікацый, выпрацаваць узгодненую методыку асветніцкай дзейнасці, якая абапіралася б на агульнапрызнаныя, фундаментальныя каштоўнасці, наладзіць абмен вопытам навуковых даследаванняў у галіне асветніцтва, практычнай дзейнасці свецкіх і царкоўных арганізацый і ўстаноў у гэтым накірунку.

Ёсць і больш канкрэтныя мэты. Канчатковыя вынікі работы семінара павінны выявіцца ў падрыхтоўцы комплекснага даследавання па гісторыі і сучаснаму стану беларускага асветніцтва ў кантэксце хрысціянскай цывілізацыі (сумесна з даследчыкамі іншых навуковых і навучальных устаноў Беларусі), складанні навукова-аналітычнай запіскі для Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры пад назвай “Гісторыя, сучасны стан асветніцтва ў Беларусі і перспектывы яго развіцця”, наладжванні каардынацыі асветніцкай дзейнасці і даследаванняў праблем асветніцтва свецкіх і рэлігійных арганізацый у Беларусі.

Што ж датычыцца чарговага пасяджэння семінара, то яно было прысвечана дзвюм праблемам: хрысціянскай антрапалогіі (асноўны дакладчык протаіерэй, настаяцель Свята-Петрапаўлаўскага сабора г. Мінска Георгій Латушка) і духоўна-культурным перадумовам дэмакратычнага грамадства (асноўны дакладчык доктар філасофскіх навук, член-карэспандэнт НАНБ, дырэктар Інстытута філасофіі і права НАНБ Альфрэд Майхровіч).

Толькі на першы погляд дзве названыя праблемы могуць падацца далёкімі. Што такое чалавек з пункту гледжання хрысціянства? У чым яго сутнасць і роля ў Сусвеце? Наколькі мы мусім быць апантанымі, ахвярнымі, інтэлігентнымі, гуманнымі і талерантнымі, пакорлівымі і актыўнымі? Адказ на гэтыя пытанні

трэба даць не толькі сабе, але і данесці яго да іншых, у чым і заключаецца сутнасць асветніцтва.

Чалавечыя якасці асобы выяўляюцца ў грамадстве, у супольнасці, у саборнасці. Шлях дасягнення згарманізаванага грамадскага стану, дзе асоба можа спраўдзіць сябе, залежыць у значнай ступені ад агульнакультурнага, інтэлектуальнага, духоўнага ўзроўню чалавека. Зразумела, што патрэба свабоды сацыяльнай ёсць вынік патрэбы свабоды ўнутранай, гэтаксама і патрэба дэмакратызму мусіць выспець знутры як асобы, так і грамадства.

Пра неабходнасць у працэсе выпрацоўкі канкрэтных метадычных рэкамендацый семінара ўлічваць духоўна-культурныя традыцыі як Захаду, так і Усходу гаварыў на семінары гісторык культуры Іван Саверчанка, сутнасць антропнага прынцыпу раскрыў філосаф Анатоль Астапенка. На сінтэзе навукі і рэлігіі, на адраджэннях этнасу і нацыі, на ўзаемадачыненнях катэгорый “дзяржава” і “народ” засяродзіў увагу прысутных філосаф Уладзімір Конан, праблему недаравальнай на сённяшні дзень блытаніны этнонімаў і канфесіёнімаў закрануў культуролаг Адам Мальдзіс.

Трохгадзінная сустрэча навукоўцаў, выкладчыкаў, святароў, прадстаўнікоў міністэрстваў прайшла плённа і канструктыўна.

***Любоў Уладыкоўская-Канаплянік***

## ФРАНЦЫЯ, БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

21–22 красавіка 1999 г. у Мінску была праведзена Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Французская рэвалюцыя і лёсы свету”. Дадзены навуковы форум, арганізаваны Беларускім дзяржаўным універсітэтам, Цэнтрам напалеонаўскіх даследаванняў (Францыя) і Заходнебеларускім цэнтрам даследаванняў Усходняй Еўропы, быў прысвечаны 210-й гадавіне пачатку Вялікай Французскай рэвалюцыі, якая аказала значны ўплыў на далейшае развіццё еўрапейскай цывілізацыі.

У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел не толькі беларускія навукоўцы, але і польскія, расійскія, украінскія, французскія, амерыканскія, канадскія, фінскія, чэшскія даследчыкі. Сярод найбольш вядомых і аўтарытэтных удзельнікаў можна назваць, напрыклад, такія прозвішчы, як Ф. Бокур, Ж.-П. Берто, Дж. С. Півен, Ю. Іханус, А. Гіза, Э. Варіс, У. Кошалеў, У. Сідарцоў, А. Бухавец, В. Шалькевіч, У. Сосна, В. Швед, І. Канапацкі, К. Козак, В. Шутава і інш.

Аб асноўных накірунках працы канферэнцыі даволі добрае ўяўленне могуць даць назвы пяці секцыйных пасяджэнняў: “Гісторыя рэвалюцыі”, “Уплыў рэвалюцыйных падзей”, “Францыя і Беларусь”, “Гістарыяграфія і крыніцы”, “Псіхалагічны і антрапалагічны падыходы”.

Прыемна, што матэрыялы канферэнцыі былі выдадзены да яе пачатку асобнай кнігай. У дадатках змешчаны фрагменты “круглых сталоў” па праблеме напалеонаўскіх войнаў, а таксама падрабязныя звесткі пра ўдзельнікаў канферэнцыі.

Увогуле, як адзначыў адзін з французскіх навукоўцаў, канферэнцыя была арганізавана і праведзена на высокім узроўні, і яна, безумоўна, стала даволі прыкметнай падзеяй у святкаванні гадавіны Вялікай Французскай рэвалюцыі ў розных краінах Еўропы.

***Э. Д.***

## ВАСІЛЬКІ ДЛЯ МАНЮШКІ



На Чэрвеньшчыне, каля колішняга фальварка Убель, адбылося музычнае свята, прысвечанае 180-годдзю з дня нараджэння славутага кампазітара, ураджэнца гэтых мясцін Станіслава Манюшкі, чыя спадчына сёння па праву належыць не толькі польскаму, але і беларускаму народу. Адкрыў урачыстасць старшыня Чэрвеньскага райвыканкама Аляксандр Лапатка. З прамовай на беларускай мове выступіў пасол Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч. Затым слова ўзялі прадстаўнікі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Беларускага фонду культуры. Завяршылася ўрачыстасць ускладаннем кветак да стэлы, якая стаіць на тым месцы, дзе калісьці быў дом Манюшкаў.

А свята працягвалася. Творы Манюшкі выконвалі ансамбль “Класік-авангард”, камерны хор “Санорус”, вядомы спявак Віктар Скорабагатаў. На паляне дэманстравалася выстаўка жывапісных палотнаў самадзейнай мастачкі з Чэрвеня Алы Пацясновай (адзін з іх яна назвала “Васількі для Манюшкі” і рэпрадукцыю яго прапанавала для “Кантактаў і дыялогаў”). Затым адбылася экскурсія ў музей С. Манюшкі, размешчаны ў мясцовай школе. Натхнёна вяла яе дырэктар музея Ірына Субота. Дарэчы, бацька яе за стварэнне музея атрымаў узнагароду “Заслужаны для польскай культуры”.

Назаўтра ў Чэрвені адбыўся конкурс па фартэпіяна і інструментальных ансамблях для навучэнцаў дзіцячых музычных школ Мінскай вобласці. І зноў гучалі творы знакамітага земляка.

Беларускім фондам культуры і Цэнтрам імя Ф. Скарыны з удзелам вядомага маэстра Віктара Скорабагатава рыхтуецца да друку зборнік артыкулаў пра Станіслава Манюшку. Але яго выданне будзе залежаць ад фінансавання.

***Ул. інф.***

# З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

## РАДКІ З ЛІСТОЎ

Па радыё сказалі, што ў Латвіі пройдуць сёлета Дні Беларусі. Будуць прадстаўлены розныя сферы, у тым ліку культура. Так дамовіліся з прадстаўнікамі Беларусі, якія нядаўна пабывалі ў Рызе. Гэта вельмі добрая вестка!

Што ж датычыцца мяне, то я завяршаю беларуска-латышскі і латышска-беларускі слоўнік. Спачатку ў ім мелася быць каля 35 тысяч слоў. Але папера цяпер вельмі дарагая. Слоўнік не павінен перавышаць 35 аркушаў. Таму я цяпер скарачаю, адмаўляючыся ад многіх прыкладаў.

На кангрэс беларусістаў апрача мяне збіраецца яшчэ доктар Ілга Апіне і кнігазнаўца Валянціна Кліменка.

***Мірдза Абала*** *(Рыга)*

У апошні час я, на жаль, зусім не мог займацца беларускай літаратурай, бо ўвесь мой час быў заняты падрыхтоўкай дзвюх балгарскіх кніжак для Лейпцыгскага кірмашу. Сёлета ён праходзіў пад знакам Балгарыі. Вельмі хочацца спадзявацца, што прыйдзе час, калі і Беларусь апынецца ў цэнтры ўвагі еўрапейскага кнігазнаўства і кнігагандлю. Разлічваю сёлета закончыць пераклад жыція св. Ефрасінні Полацкай, каб выдаць яго ў 2000 годзе.

***Норберт Рандаў*** *(Берлін)*

Перыядычны зборнік “праблемы славяназнаўства” мяркуецца выдаваць у Бранскім дзяржаўным педуніверсітэце. Праблематыка — гісторыя, культура, філалогія славянскіх краін. Магчымы аб’ём артыкулаў — да 1 др. арк. Прымаюцца таксама публікацыі дакументаў таго ж аб’ёму. Тэрмін прадастаўлення матэрыялаў — да 1 верасня 1999 г.

Адрас: 241036, Брянск, ул. Бежицкая, 14, Михальченко Сергею Ивановичу. Тел. (0832) 46 636.

***Сяргей Міхальчанка*** *(Бранск, Расія)*

## АДКАЗЫ З РЭДАКЦЫІ

***Чэславу Сэнюху**, Варшава*

У 2–3 нумары “Кантактаў і дыялогаў” за гэты год змешчана Ваша запытанне, звернутае да чытачоў, каму належаць працытаваныя Вамі вершаваныя радкі. Першым адгукнуўся дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў, які паведаміў, што гэтыя радкі — з верша “Матыль”

Максіма Танка, які быў уключаны ў яго зборнік “Журавінавы цвет” (1937). Таму Вы лёгка маглі пачуць гэты верш яшчэ да вайны ў вуснай перадачы ў сваёй роднай Любчы.

***Леаніду Лазарэвічу**, кандыдату медыцынскіх навук (Мінск)*

Вы шукаеце сляды свайго родзіча Уладзіміра Сямёнавіча Шостака, які нарадзіўся каля 1900 г. у былым Слонімскім павеце і да Першай сусветнай вайны выехаў у ЗША, удзельнічаў там у розных грамадскіх падзеях і згадваецца доктарам Вітаўтам Кіпелем у яго кнізе “Беларусы ў ЗША”, а таксама сляды яго магчымых нашчадкаў. Вашу просьбу мы пераадрасоўваем нашым суайчыннікам у ЗША, прапануем ім надрукаваць такую абвестку ў “Беларусе”.

## З НАДРУКАВАНАГА

***Рыгор Мурашка — пра страты ў час нацысцкай акупацыі***

“…Дом друку немцы занялі пад казарму. З шматлікіх пакояў Белдзяржвыдавецтва выкінуты на двор як смецце і знішчаны: вялікі збор рукапісаў беларускіх пісьменнікаў, якія знаходзіліся ў працэсе падрыхтоўкі да друку, вялікая бібліятэка і архіў выдавецтва.

… У падвалах Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна немцы ўстроілі склад і халадзільнік. Кнігі павыкідвалі на двор ззаду бібліятэкі і палілі іх рэгулярна вялікімі кучамі.

…Будынак Мастацкай галерэі заняты пад пастой для нямецкіх афіцэраў. У выніку гэтага праз нядзелю-дзве са сценаў галерэі зніклі амаль усе карціны. Карціны, якія ўмяшчаліся ў афіцэрскія чамаданы разам з рамамі, знікалі са сцен з рамамі, калі ж памер рам не дазваляў гэтага зрабіць — брытвай ці нажом карціны выразаліся.

…Найлепшым упрыгожаннем галерэі служыла калекцыя слуцкіх паясоў — адзіная поўная ў свеце. Калекцыя ў залатой валюце каштавала да 10 мільёнаў рублёў. Мастакамі А. Тычынай, В. Ціхановічам яна была клапатліва схавана ў скрынкі ў падвале і замаскіравана канторскімі кнігамі і розным хламам, афіцэрам жа сказалі, што ў скрынках — гаспадарчыя і канцылярскія рэчы. Але перакладчыца здзекліва паглядзела на мастакоў і патлумачыла немцам, што іх ашукваюць. Праз некалькі дзён калекцыя слуцкіх паясоў была пагружана ў нямецкія ваенныя грузавыя машыны і накіравана ў невядомым напрамку, а па чутках — у Кёнігсберг”.

З рэдакцыйнага каментарыя: “З-за адсутнасці газетнай плошчы назавём толькі загалоўкі некаторых аналітычных аглядаў Р. Д. Мурашкі: “Аб зараджэнні і развіцці нацдэмаўскага руху”, “Аб прыбыцці ў Мінск беларускай эміграцыі і яе дзейнасці”, “Агляд устаноў нямецка-беларускай адміністрацыі горада Мінска”.

*Кнатько Галина, Крапивин Сергей. Под псевдонимом “Микита”. Открыты новые материалы минского подполья: рукописные донесения писателя и разведчика Рыгора Мурашки // Сов. Белоруссия. 1999. 8 мая.*

# CONTENTS



Падпісана ў друк **14.05.1999**. Папера **афсетная**. Друк **афсетны**.
Фармат **60x90 1/16**. Умоўн. друк. арк. **3,5**. Ул.-выд. арк. **4,3**.
Тыраж **299 экз**. Заказ **№ 69**.
Надрукавана з дыяпазітываў рэдакцыі **ТАА "Юніпол"**.
Ліцэнзія ЛП № 210 ад 5.01.98 г. 220039, г. Мінск, вул. Караткевіча, 6.